*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года **№ 6 (641) 11 ЛЮТАГА 2004 г.**

# Менскія ўлады на саступкі пакуль не ідуць

**МІНСКІ ГАРАДСКІ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ**
220050, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 8
тэл: (017) 227 05 75



**МИНСКИЙ ГОРОДСКОЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ**
220050, г. Минск, пр. Ф. Скорины, 8
тел: (017) 227 05 75

№ 2-03/202 от 02.02.2004
от 15.01.2004 № 6

**Общественное объединение "Товарищество белорусского языка имени Ф. Скорины"**

**О расторжении договоров аренды.**

В Минском городском исполнительном комитете рассмотрено ваше обращение по вопросу расторжения договоров аренды на нежилые помещения в здании по ул. Румянцева, 13.

Необходимость расторжения договоров аренды с ОО "Общество белорусского языка им. Ф. Скорины" и Минской городской организацией ОО "Общество белорусского языка им. Ф. Скорины" вызвана недостатком помещений для размещения жилищно-эксплуатационной службы № 12 Партизанского района г. Минска, которая в настоящее время располагается в нескольких зданиях, что значительно затрудняет организацию работы и вызывает жалобы и нарекания жильцов. Перемещение всех специалистов в здание по ул. Румянцева, 13, в котором находится большая часть работников ЖЭСа, позволит скоординировать деятельность его служб и обеспечит более качественное и оперативное обслуживание населения района. В связи с изложенным Мингорисполком считает целесообразным переразместить ОО "Товарищество белорусского языка им. Ф. Скорины" в другом здании. В связи с чем предлагаем вам ознакомиться с перечнем свободных площадей в зданиях городской коммунальной собственности, который ежемесячно формируется в Минском городском центре недвижимости (ул. К. Маркса, 18), и самостоятельно определить возможность использования предлагаемых в нем помещений.

**Первый заместитель председателя Н.М. Ерохов.**

*5 лютага 2004 г. № ______*

*Сп. Міхаілу Паўлаву*
*Старшыні Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта*
*220050, г.Мінск, пр.Скарыны,8*

**Паважаны Міхаіл Якаўлевіч!**

На ліст №2.03/202 ад 02.02.04 наконт лёсу нашай сядзібы па вул. Румянцава, 13, падпісаны Вашым першым намеснікам сп. Ярохавым, маем гонар паведаміць наступнае:

1) У адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь прапануем сп. Ярохаву даць нам афіцыйны адказ на дзяржаўнай беларускай мове.

2) Мы просім Вас знайсці іншае памяшканне для размяшчэння ЖЭС-12, напрыклад, на вул. Першамайскай, бо высяленне з вуліцы Румянцава, 13 патрабуе змены юрыдычных адрасоў пяці структур ТБМ і месцазнаходжання нашага адраса ў падатковай інспекцыі.

3) Калі гэта немагчыма, прапануем прадоўжыць з намі дамову арэнды да 1 чэрвеня 2004 года, пакуль мы не знойдзем новае памяшканне і не падрыхтуем яго да пераезду.

З павагай,
**Старшыня ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" Алег Трусаў.**

**Старшыні Мінгарвыканкама**
**Сп. Паўлаву М.Я.**

**Копія: Старшыні выканкама**
**Партызанскага р-на г. Мінска**
**Сп. Сямашку П.М.**
**3.02.2004 г. № 3-3**

**ПАВАЖАНЫ МІХАІЛ ЯКАЎЛЕВІЧ,**
**ПАВАЖАНЫ ПЁТР МІХАЙЛАВІЧ,**

МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" выказвае вялікую занепакоенасць у сувязі з інфармацыяй аб адмове выканаўчай уладай Партызанскага раёна г. Мінска Грамадскаму аб'яднанню "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" ў арэндзе памяшкання па вул. Румянцава, 13 і непрадастаўленнем адэкватнага, у выніку чаго могуць быць пазбаўлены юрыдычнага адраса Рэспубліканская, мінская гарадская і Партызанская раённая арганізацыі ТБМ, рэдакцыі газет таварыства "Наша слова" і "Новы час", а само таварыства панясе значныя матэрыяльныя страты.

Нам бачыцца ў тэтым паспешным і непрадуманным адміністратыўным рашэнні мясцовай улады наступнае:

1.Неразуменне таго вялізнага значэння, якое мае дзейнасць ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" для духоўнага жыцця грамадства і нацыянальнай культуры, у наданні беларускай мове рэальнага статусу духоўнага існавання і грамадскага побыту як прызнанага і аўтарытэтнага лідэра ў гэтай галіне сярод культурна-асветных арганізацый краіны і ў замежжы.

2. Няўменне арыентавацца ў складаных працэсах і настроях нацыянальна-арыентаванай і патрыятычнай часткі грамадскага супольніцтва, што сведчыць проста аб прафесійнай нядзатнасці пэўных дзяржаўных служачых.

3. Спробу вырашыць дробныя вытворча-гаспадарчыя пытанні з кошт ушчамлення шырокіх грамадскіх інтарэсаў.

МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" як ніякая іншая грамадская арганізацыя разумее сур'ёзнасць дадзенай праблемы, таму што асноўным напрамкам яе дзейнасці з'яўляецца захаванне беларускай прысутнасці ў свеце. Найпершы сродак дзеля гэтага – родная беларуская мова. Нашы суайчыннікі за мяжой з трывогай сочаць за развіццём падзей.

Спадзяёмся, што бюракратычныя гульні і самаўпраўства асобных чыноўнікаў не адлюстроўваюць дзяржаўны падыход да становішча з беларускай мовай – мовай карэннага насельніцтва краіны.

МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" звяртаецца асабліста да старшыні Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта Міхаіла Паўлава, да Выканаўчага камітэта Партызанскага р-на г. Мінска з патрабаваннем пераглядзець памылковае рашэнне раённай адміністрацыі і працягнуць дамову аб арэндзе ГА "Таварыства беларусай мовы імя Ф. Скарыны".

Стварэнне гэтага штучнага канфлікту можа прывесці толькі да абвастрэння грамадска-культурнай сітуацыі ў краіне.

**Праф. Анатоль Грыцкевіч,**
Кіраўнік МГА "ЗБС "Бацькаўшчына".
**Алена Макоўская,**
Старшыня Рады МГА "ЗБС "Бацькаўшчына".

# Беларусы ўсяго свету падтрымліваюць ТБМ

Тысячы подпісаў накіравалі грамадзяне Беларусі ў Менскі гарвыканкам з патрабаваннем спыніць захады па высяленні Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны з сядзібы па вул Румянцава, 13. Акрамя гэтага мноства лістоў па электроннай пошце адпраўлена на сайт Менгарвыканкаму http://www.minsk.gov.by/. Сёння мы прапануем некаторыя з іх нашым чытачам.

**15.01.2004 Andrus Bielarecki , Belarus , Minsk , http://www.pravapis.org/**

*Хацеў бы выказаць пратэст з нагоды таго, што Таварыства Беларускай Мовы выкідаюць з памяшканьня на вуліцы Румянцава. Як і каму я магу накіраваць ліст з пратэстам? Дзякуй.*

Рэдактар сайта: Паважаны Андрусь, калі Вы хочаце атрымаць дапамогу, Вы спачатку падрабязна напішыце, хто і з якой нагоды Вас выкідае. Толькі, калі ласка, не трэба палітычных заклікаў.

*(Працяг на ст. 4.)*

# Памяці Васіля Быкава

**Сёлета грамадскасць краіны будзе адзначаць 80-я ўгодкі народнага пісьменніка Беларусі, Чалавека, які быў для ўсіх свядомых беларусаў ідэалам сумлення, змагаром супраць хлусні, маны. Васіль Быкаў сваёй творчасцю, прынцыповай грамадзянскай пазіцыяй нёс людзям праўду і толькі праўду.**




Таварыства беларускай мовы з нагоды юбілею народнага пісьменніка выпусціла кішэнны каляндарык на 2004 год з вывай творцы на фоне бацькоўскай хаты ў вёсцы Бычкі, што на Ушаччыне. Гэта – нашая даніна пашаны Вялікаму Чалавеку.

Сакратарыят Таварыства ўдзячны Рыгору Барадуліну, Сяргею Шапрану, Ігару Марачкіну, якія спрычыніліся да падрыхтоўкі і выдання каляндарыка.

Для тых, хто жадае мець памятку пра Васіля Быкава, пра першы юбілей без яго, раім звярнуцца ў сядзібу ТБМ, што на вул.Румянцава, 13 у Менску.

**ІРЫНА МАРАЧКІНА,**
**АДКАЗНЫ САКРАТАР ТБМ.**

# Справаздачны даклад Старшыні ГА “ТБМ імя Ф. Скарыны” Алега Трусава за 2003 год (скарочана)

Шаноўнае спадарства, інфармацыя пра дзейнасць Таварыства за 9 месяцаў 2003 года ўтрымлівалася ў маім справаздачным дакладзе, а таксама ў судакладах Рэвізійнай камісіі, намеснікаў старшыні ТБМ Людмілы Дзіцэвіч, Сяргея Кручкова, Алены Анісім, галоўнага рэдактара “Нашага слова” Станіслава Судніка на VIII з’ездзе, які адбыўся 12 кастрычніка. Таму сёння я паспрабую падсумаваць вынікі нашай працы за ўвесь мінулы год.

Захаванне роднай мовы, пашырэнне сферы яе ўжытку застаецца найпершай і найважнейшай задачай арганізацыі. Дзеля дасягнення гэтае мэты цягам мінулага году было зроблена наступнае.

Сакратарыят распрацаваў прапановы па ўдасканаленні Закона “Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь” і ў сакавіку месяцы накіраваў іх у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу. Мы дамагаліся, каб гэтыя прапановы былі ўнесены на разгляд восеньскай 2003 г. сесіі. Але, на жаль, гэтага не адбылося. На сённяшні дзень праект змяненняў і дапаўненняў у Закон “Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь” таксама афіцыйна не ўнесены ў план падрыхтоўкі законапраектаў на 2004 год. Але, як стала вядома з сродкаў масавай інфармацыі (інтэрвію карэспандэнту “Звязды” намесніка старшыні Камісіі ПП НС па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу Уладзіміра Здановіча), дзякуючы таму, што Нацыянальны сход атрымаў рашэнне Канстытуцыйнага суда, у якім апошні прапанаваў “разгледзець пытанне аб унясенні ў Закон “Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь” і іншыя акты заканадаўства змяненняў і дапаўненняў, якія здольны забяспечыць фактычную роўнасць дзяржаўных моў”, – праект можа быць унесены на разгляд у Авальную залу, мінуючы гэты план. Трэба адзначыць, што згаданае вышэй рашэнне Канстытуцыйнага суда “Аб выкарыстанні беларускай і рускай моў у сферы абслугоўвання, абарачэння банкаўскіх пластыкавых картак і ў сістэме дзяржаўнага сацыяльнага страхавання” сталася вынікам адпаведнага запыту ТБМ у Канстытуцыйны суд.

З мэтай пашырэння беларускай мовы на спажывецкім рынку, сябрамі Таварыства па просьбе Дзяржстандарту быў выкананы вялікі аб’ём працы па перакладу Стандартаў на харчовыя і прамысловыя тавары. Аднак, ані наша дабрачынная праца, ні збор подпісаў і шматлікія звароты з прапановамі аб абавязковым выкарыстанні роднай мовы на беларускім рынку не далі жаданага выніку. Не дапамагло і тое, што Канстытуцыйны суд Беларусі паведаміў Камітэту па стандартызацыі, метралогіі і сертыфікацыі аб тым, што для забеспячэння роўнага статусу дзвюх дзяржаўных моў, гарантаванага артыкулам 17 Канстытуцыі РБ, — інфармацыя для грамадзян на таварах павінна даводзіцца на беларускай і рускай мовах. Адзінае, што дае станоўчы вынік і задавальненне, — гэта сувязь з вытворцамі. Хто цікавіцца, можа пераканацца, што на многіх харчовых таварах, як айчыннай, так і замежнай вытворчасці, змяшчаецца інфармацыя на беларускай мове. У гэтым – ёсць доля і нашай працы.

У сувязі з афармленнем пасведчанняў сацыяльнага страхавання і банкаўскіх пластыкавых картак толькі па-руску, мы звярталіся ў Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва. Афіцыйны адказ Фонду, у якім паведамлялася, што грамадзяне па сваім жаданні могуць аформіць дакументы на беларускай мове, быў скарыстаны многімі сябрамі Таварыства.

З прычыны русіфікацыі на чыгуначным транспарце працягваецца збор подпісаў супраць выцяснення беларускай мовы на чыгуначных вакзалах, і асабліва ў абвестках на электрацягніках. Праведзена акцыя па бясплатным ўручэнні начальнікам цягнікоў аўдыёкасет з запісам беларускай музыкі і песняў. Пасля таго, як гэтай незвычайнай акцыяй зацікавілася тэлебачанне, кіраўніцтва Беларускай чыгункі забараніла прымаць беларускія музычныя дарункі.

З усяго гэтага вынікае, што ва ўмовах татальнай русіфікацыі без змянення заканадаўства, якое дае магчымасць на ўсіх без выключэння сферах карыстацца беларускай і (або) рускай мовамі, — не абысціся. Таму цяпер усе нашыя намаганні скіраваныя на тое, каб праект змяненняў і дапаўненняў у Закон “Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь” быў унесены на разгляд веснавой сесіі ПП НС.

Таварыства выступіла ў абарону Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа, адзінай беларускамоўнай навучальнай установы Беларусі, якую намагаюцца знішчыць уладныя структуры. З гэтай нагоды быў апублікаваны наш Зварот. Мы ўдзельнічалі ў зборы подпісаў і дапамагалі, як маглі. У сядзібе ТБМ праводзяцца кансультацыі для навучэнцаў, якія, дарэчы, як і ўвесь выкладчыцкі калектыў, з’яўляюцца сябрамі нашай арганізацыі. І гэта натуральна, бо ў стварэнні ліцэю брала ўдзел Савецкая рада ТБМ г.Менска.

У сувязі з тым, што ў мінулым навучальным годзе Міністэрства адукацыі фактычна адмяніла абавязковы экзамен за курс сярэдняй школы па беларускай літаратуры, быў прыняты зварот “Вернем экзамен па беларускай літаратуры ў школу”, які апублікаваны ў газетах. Сёлета ж Міністэрства адукацыі замест экзамена ўводзіць тэставанне па адной з моў на выбар. Таму сёння мы звернемся да беларускай моладзі з заклікам зрабіць свой выбар на карысць беларускай мовы.

Дзякуючы звароту да старшыні Цэнтральнай камісіі Беларусі па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў Лідзіі Ярмошынай, узоры бланкаў выбарчых дакументаў, у тым ліку і паштовак-паведамленняў, былі выдадзеныя на беларускай мове.

У сваёй дзейнасці мы кіруемся гарантаваным Канстытуцыяй прынцыпам роўнасці дзвюх дзяржаўных моваў, які, на жаль, застаецца дэкларатыўным. Як бачыце, значная частка нашай працы прысвечана абароне моўных правоў беларускамоўных грамадзянаў краіны і падтрымцы адпаведных ініцыятываў грамадзянаў і арганізацыяў. Напрыканцы студзеня гэтага года прадстаўнікі ТБМ бралі ўдзел у працы аргкамітэта і Форума праваабаронцаў, дзе вялі секцыю “Лінгвістычныя правы: гарантыі і механізмы рэалізацыі”. Нам належыць ініцыятыва супольнай абароны сваіх моўных правоў прадстаўнікамі ўсіх этнасаў Беларусі. У шэрагу праваабарончых грамадскіх арганізацыяў ТБМ займае цяпер трывалыя пазіцыі, як арганізацыя, якая бароніць лінгвістычныя правы грамадзян.

Некалькі слоў пра культурна-асветніцкую дзейнасць.

■ Паспяхова праходзяць заняткі гістарычнага семінара для моладзі. Асаблівай папулярнасцю карыстаюцца лекцыі Уладзіміра Арлова і Вольгі Іпатавай.

■ Падведзены вынікі конкурса “Як мы пазнаёміліся” на лепшы аповяд гісторыі знаёмства маладых людзей. Удзел бралі маладыя пары з розных куточкаў краіны. Суперпрыз конкурсу, пуцёўку на курорт “Нарач”, атрымала Яніна Мельнікава і Максім Маслаў з г. Слоніма. Найбольш масавым быў конкурс “Руплііўцы беларушчыны”. У ім удзельнічала 150 чалавек.

■ За мінулы год мы выдалі кішэнныя каляндарыкі да юбілеяў Максіма Гарэцкага, Францішка Аляхновіча, Наталлі Арсенневай, Язэпа Лёсіка, Вацлава Ластоўскага а таксама быў падрыхтаваны каляндарык да 80-годдзя Васіля Быкава. Літаральна ўчора мы забралі яго з друкарні. Вось ён перад вамі.

■ Таварыства спрычынілася да выпуску ўнікальнай кнігі “Язэп Лёсік. 1921–1930”, якая пабачыла свет да 120-годдзя пісьменніка.

■ Была скончана праца па ўдакладненні і рэдагаванні Стратэгіі дзейнасці ГА “ТБМ імя Ф. Скарыны” па развіцці беларускай мовы ў XXI ст. Тэкст апублікаваны ў “Нашым слове”.

Адзін з новых кірункаў дзейнасці Таварыства – стварэнне камп’ютарных праграм па падтрымцы беларускай мовы ў сучасных беларускіх тэхналогіях. Пра гэта на апошнім з’ездзе падрабязна інфармаваў у сваім дакладзе намеснік старшыні Сяргей Кручкоў.

За справаздачны перыяд праведзена 2 паседжанні Рады і 16 Сакратарыята. Прынята 205 новых сяброў, зарэгістравана 11 суполак. Адбылася ўстаноўчая канферэнцыя Берасцейскай абласной арганізацыі. З кожным годам Таварыства маладзее. Яго шэрагі папаўняюць нацыянальна свядомыя дзяўчаты і юнакі. Днямі сябрам Таварыства стаў украінскі перакладчык Віталь Радчук, кіраўнік Таварыства украінскай мовы Кіеўскага універсітэта.

Не сакрэт, што наша грамадская арганізацыя, як і іншыя, знаходзіцца пад пільным кантролем з боку Міністэрства юстыцыі, якое не выпадкова ўлетку мінулага года запатрабавала дадзеныя аб колькасці сяброў і структур. У сувязі з гэтым асабіста мною (падчас летніх адпачынкаў) была праведзена праца па падліку нашых шэрагаў. З прычыны няўплаты сяброўскіх унёскаў, што з’яўляецца парушэннем Статуту ТБМ, ужо пасля з’езду мы яшчэ раз заняліся высвятленнем нашых рэальных шэрагаў. Дзеля гэтага звярнуліся непасрэдна да кожнага кіраўніка суполкі, што стаяць у нас на ўліку. Напісалі каля 500 лістоў з просьбай сплаціць складкі, удакладніць спісы сяброў, правесці справаздачна-выбарчыя сходы, замовіць пасведчанні. Такім чынам мы выявілі суполкі, якія да гэтага часу не адгукнуліся, што ставіць пад сумнеў іх існаванне, і разам з тым мы атрымалі, і яшчэ дагэтуль атрымліваем, складкі і ахвяраванні ад тых, хто сапраўды лічыць сябе сябрам ТБМ. Шмат хто аформіў пасведчанні новага ўзору. Іх маюць 1768 сяброў. Апрацоўка атрыманых матэрыялаў яшчэ не скончаная. Але на сёння ў камп’ютарную базу дадзеных унесена 4518 сяброў з дакладнымі пра іх звесткамі. Сёння я хачу паставіць пытанне аб скасаванні тых суполак, якія не выконваюць статутных патрабаванняў. Гэта Жлобінская гарадская арганізацыя, Рэчыцкая суполка, Бялыніцкая гарадская арганізацыя, Касцюковіцкая суполка, Крычаўская суполка, Старадарожская суполка, Уздзенская суполка, Акцябрская раённая арганізацыя, Кобрынскія суполкі, Столінская раённая арганізацыя. Калі яны не адгукнуцца, канчатковае рашэнне хай прыме наступная Рада.

Мінулы год быў для нас незвычайным у тым сэнсе, што ўпершыню мы судзіліся з Мінюстам з прычыны вынесенага Таварыству папярэджання. Скарга, з якой мы звярнуліся ў Вярхоўны Суд РБ, засталася незадаволенай. Аднак, нягледзячы на страчаны час і пэўны высілкі, ён быў карысны для нас і паказальны для іншых. Мы набылі пэўны досвед у судовай справе, а галоўнае, што ён цалкам вёўся на беларускай мове. Гэта нават натхніла сябра Рады Уладзіміра Содаля на цудоўны артыкул “Хочацца парушаць яшчэ”, які можна прачытаць у “Нашым слове”.

Нажаль, наша змаганне за годнае жыццё арганізацыі не спыняецца. Пярэдадзень свайго 15 гадовага юбілею ТБМ праводзіць у адстойванні сваіх правоў на памяшканне, якое займае з першага дня існавання. Але, як кажуць, няма такога зла, каб з яго камусь не выйшла добра. Спроба нашага высялення аказалася найлепшым сродкам, дзеля высвятлення нашай актыўнасці, згуртаванасці, салідарнасці. У небяспечны момант сапраўдны беларус аказаўся здатным супрацьстаяць, праявіць свае найлепшыя байцоўскія здольнасці. Наш зварот да грамадзянаў выклікаў шквал подпісаў у падтрымку Таварыства, якія штодня дзесяткамі і сотнямі паступаюць у ТБМ, а таксама на адрас кіраўніка выканаўчай улады Менска Уладзіміра Паўлава. Аказалася, што нас падтрымліваюць тысячы неабыякавых да роднай мовы людзей. Сітуацыя, якая склалася вакол сядзібы зацікавіла міжнародную супольнасць. Я быў запрошаны на гутарку з амбасадарам АБСЕ спадаром Хайкенам, а таксама з прадстаўнікамі амерыканскага пасольства ў Беларусі з іх ініцыятывы.

Чым скончыцца нашае змаганне, пакажа час. Відавочна адно, што некаму хочацца адхіліць арганізацыю ад актыўнай грамадскай дзейнасці. А нашым чарговым крокам будзе прыняцце звароту, на гэты раз да Ураду, праект якога вынесены сёння на абмеркаванне Рады ды абмеркаванне плана работы Таварыства на 2004 год.

*Старшыня ГА “ТБМ імя Ф. Скарыны” Алег Трусаў.*



***На паседжанні Рады ТБМ 1.02.2004 г. На перэднім плпне: Аляксей Лапіцкі (Жодзіна), Людміла Піскун (Мазыр), Аляксей Пяткевіч (Горадня), Вольга Іпатава (Менск).***

## ВЫТОКІ НАШАЙ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

# Беларуская дзяржаўнасць у пачатку XX стагоддзя

***Ідэя нашай поўнай незалежнасці — гэта значыць самастойнае існаванне толькі самой Беларусі, а не саюзы з іншымі краінамі альбо розныя ўтварэнні — выспявала ў вельмі складаных абставінах, у сітуацыі вайны і цяжкай спадчыны татальнай русіфікацыі. Мы друкуем сёння артыкул знанага гісторыка, выдатнага грамадскага дзеяча Анатоля Грыцкевіча аб тым, як нараджалася сама ідэя Беларускай Народнай Рэспублікі і аб яе першых кроках.***

*Вольга Іпатава*



У канцы XIX стагоддзя ўзмацніўся беларускі адраджэнцкі рух, а ў 1903 — 1904 гг. было аформлена стварэнне беларускай нацыянальнай палітычнай партыі — Беларускай Сацыялістычнай Грамады. Падчас расійскай рэвалюцыі 1905 — 1907 гг. БСГ на сваім II з'ездзе ў Менску ў канцы 1905 — пачатку 1906 г. патрабавала палітычнай аўтаноміі для Беларусі ў складзе Расійскай дзяржавы (без царскага самаўладання). Але ўжо ў 1907 г. адзін з дзеячоў нацыянальнага руху Вітольд Жукоўскі з Вільні выступіў з праграмай барацьбы за незалежнасць Беларусі ў саюзе з Літвой і Каронай (Польшчай).

У нашаніўскі перыяд Адраджэння сярод беларускіх дзеячоў панавалі яшчэ аўтанамісцкія погляды на будучыню Беларусі. У гэты час Іван Луцкевіч прапагандаваў ідэю незалежнасці Беларуска-Украінскай федэрацыі (па ўзоры былога Вялікага Княства Літоўскага). Такім чынам, і ў нашаніўскім асяроддзі ўзнавіліся незалежніцкія погляды.

У снежні 1905 г. у акупаванай нямецкімі войскамі падчас сусветнай вайны Вільні, былой сталіцы Беларуска-літоўскай дзяржавы, была створана канфедэрацыя Вялікага княства Літоўскага, палітычная арганізацыя, якая пачалася з утварэння незалежнай Беларуска-літоўскай дзяржавы паводле федэратыўнага прынцыпу (для абедзвюх яе частак, беларускай і літоўскай). Ініцыятарамі стварэння Канфедэрацыі Вялікага княства з беларускага боку былі браты Іван і Антон Луцкевічы, браты Станкевічы, паэтэса Канстанцыя Буйло, пісьменнік Максім Гарэцкі. У Канфедэрацыю ўвайшлі прадстаўнікі арганізацый беларусаў, літоўцаў, палякаў і яўрэяў.

Група "Сувязь Незалежнасці і Непадзельнасці" на чале з Вацлавам Ластоўскім, у адрозненне ад Канфедэрацыі, адмовілася ад федэрацыі і выступала за поўную дзяржаўную незалежнасць і тэрытарыяльную цэласнасць Беларусі ў яе этнаграфічных межах. Такім чынам, у Вільні, тагачасным беларускім палітычным цэнтры, была ўзноўлена ідэя незалежнасці Беларусі.

Другім палітычным цэнтрам тагачаснага нацыянальнага руху пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. у Расіі стаўся Менск, дзе кіраўнічую ролю спачатку адыгрываў Беларускі Нацыянальны Камітэт, выбраны на з'ездзе беларускіх арганізацый і партый. Дзеячы Камітэту прытрымліваліся прарасійскай арыентацыі. У ліпені 1917 г. у Менску замест БНК на II з'ездзе беларускіх арганізацый і партый была абрана Цэнтральная Рада, якая прадстаўляла сацыялістычныя сілы беларускага нацыянальнага руху. Менскія дзеячы Цэнтральнай Рады (потым Вялікай Беларускай Рады) таксама заставаліся на аўтанамісцкіх пазіцыях, выказваючыся за абвяшчэнне Беларускай дэмакратычнай рэспублікі са сваім войскам, але ў складзе Ра-ійскай федэрацыі народаў.

Бальшавіцкі пераварот у Петраградзе і саветызацыя Беларусі ў канцы 1917 г. не пакідалі надзеі і на аўтаномны варыянт. У снежні 1917 г. са згоды прадстаўнікоў Савета народных камісараў у Петраградзе ў Менску беларускімі нацыянальнымі сіламі быў склікаты дэмакратычна абраны Усебеларускі з'езд. Хоць на з'ездзе было шмат прыхільнікаў аўтаноміі Беларусі ў складзе Расіі, аднак прыкладна палова дэлегатаў была ўжо прыхільнікамі незалежнай Беларусі. З'езд быў хутка разагнаны мясцовым бальшавіцкім кіраўніцтвам на чале з А. Мясніковым, якое адмаўляла не толькі самавызначэнне беларусаў, але і ўвогуле не прызнавала існавання беларускай нацыі. Аднак ідэя Беларускай Народнай Рэспублікі была на Усебеларускім з'ездзе дэкларaваная. Рада з'езду на чале з Я. Лёсікам перайшла на нелегальнае становішча і сталася юрыдычнай пераемніцай усёй паўнаты ўлады з'езду. Яна абрала Выканаўчы (Спаўняючы) камітэт Рады на чале з Язэпам Варонкам, які павінен быў заняцца беларусізацыяй Саветаў і узяць уладу ў свае рукі ў адпаведны момант. Выканаўчы камітэт быў прабавобразам улады Беларусі.

Пасля ўцёкаў бальшавіцкага кіраўніцтва з Менска і перад прыходам нямецкіх войскаў 19 лютага 1918 г. Выканаўчы камітэт Рады выйшаў з падполля і стаўся легальным органам улады ў Беларусі.

21 лютага 1918 г. выканаўчы камітэт Рады з'езду выдаў 1-ю Устаўную грамату да народаў беларусаў, у якой абвясціў сябе "часовай уладай на Беларусі для кіравання краем і склікання, як можна хутчэй, Усебеларускага Устаноўчага Сойму..." Выканаўчы Камітэт вылучыў са свайго складу Народны Сакратарыят Беларусі на чале з Язэпам Варонкам і перадаў яму выканаўчую ўладу ў краіне.

Нямецкія войскі занялі Менск і амаль усю тэрыторыю Беларусі. Германія заключыла з савецкай Расіяй Берасцейскі мір (3 сакавіка 1918 г.), не прызнала беларускую ўладу, бо лічыла Беларусь часткай савецкай Расіі (паводле Берасцейскага міру). Аднак выканаўчы камітэт Рады і народны Сакратарыят працягвалі дзейнасць. ( 9 сакавіка 1918 г. выканаўчы Камітэт Рады выдаў Другую Ўстаўную грамату да народаў Беларусі, у якой абвяшчаў утварэнне Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР) у межах этнаграфічнай Беларусі. Гэтая грамата абвяшчала дэмакратычны лад у краіне. Але аб самастойнасці Беларусі ў ёй яшчэ не згадана. Беларускія менскія дзеячы пераважна знаходзіліся на аўтанамісцкіх пазіцыях.

У гэты ж час беларускія палітычныя дзеячы ў Вільні дзейнічалі ў незалежніцкім кірунку. 25—26 студзеня 1918 г. яны правялі Беларускую канферэнцыю, якая ўтварыла Віленскую Беларускую Раду. 19 лютага гэтая Рада прыняла пастанову, паводле якой сувязь паміж Беларуссю і Расіяй абвяшчалася разарванай. 18 сакавіка 1918 г. шэсць сяброў Віленскай Беларускай Рады (у тым ліку В. Ластоўскі, I і А. Луцкевічы). былі каптаваныя ў Раду БНР і 23 сакавіка прыехалі ў Менск. Пасля прыезду ў Менск Антон Луцкевіч прапанаваў Народнаму Сакратарыяту абвясціць незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі. Папярэдне гэтая прапанова была абмеркавана на паседжанні фракцыі Беларускай Сацыялістычнай Грамады ў Радзе БНР. Пасля спрэчак фракцыя прыняла гэтую папанову.

24 сакавіка 1918 года а 8 гадзіне ўвечары пачалося пленарнае паседжанне Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. З дакладам "Палітычнае становішча Беларусі" выступіў старшыня фракцыі БСГ Аркадзь Смоліч. Ён прапанаваў прыняць Устаўную Грамату з абвяшчэннем незалежнасці Беларусі. Супраць ініцыятывы А. Луцкевіча і фракцыі БСГ у Радзе выступілі прыхільнікі аўтаноміі ў складзе Расіі і ўвогуле праціўнікі незалежнасці Беларусі — прадстаўнікі земстваў і гарадскіх дум, яўрэйскіх сацыялістычных партый. Пасля бурных спрэчак а 8 гадзіне 25 сакавіка 1918 года большасцю галасоў сяброў Рады БНР была прынятая Трэцяя Ўстаўная грамата. Супраць прыняцця граматы (а значыць і незалежнасці Беларусі) прагаласавалі прадстаўнікі земстваў, гарадскога самакіравання (з рускамоўнай інтэлігенцы) і яўрэйскай сацыялістычнай партыі Бунд. Яны выйшлі са складу Рады БНР. Сябры аб'яднанай яўрэйскай сацыялістычнай партыі і расійскія эсэры ад галасвання ўстрымаліся.

25 сакавіка 1918 г. Трэцяй Устаўной Граматай Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчалася незалежнай дзяржавай, і ўсе дзяржаўныя сувязі з Расіяй, а таксама Берасцейская мірная дамова ў дачыненні да Беларусі касаваліся. Ідэя незалежнасці Беларусі здзяйснялася. У дзяржаўным акце 25 сакавіка 1918 года былі зацверджаныя ўсе тыя правы і вольнасці грамадзян Беларусі, якія былі абвешчаныя ў Другой Устаўной Грамаце 9 сакавіка. Была вызначана і тэрыторыя Беларускай Народнай Рэспублікі — "Магілёўшчына, беларускія часткі Меншчыны, Гарадзеншчыны (з Горадняй, Беластокам і інш.), Віленшчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны і сумесных частак суседніх губерняў, заселеных беларусамі". Аб будучых дзяржаўных сувязях з іншымі краінамі павінны былі вырашаць самі беларусы ў асобе Устаноўчага Сойму.

Такім чынам, абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі самастойнай і незалежнай дзяржавай было юрыдычным актам, які ўзнаўляў дзяржаўнасць беларускага народа, страчаную ў канцы XVIII стагоддзя. Акт 25 сакавіка быў лагічным наступствам дзейнасці Усебеларускага з'езду ў снежні 1917 года. Гэты акт зрабіў цалкам легальнай далейшую дзейнасць Рады БНР і яе ўраду ў 1918 годзе і ў наступны перыяд.

Беларуская дзяржава, абвешчаная 25 сакавіка 1918 года, была легітымнай. Яе легітымнасць вынікала, як з глыбінь гісторыі, так і цалкам дэмакратычнага характару яе аднаўлення. Акт 25 сакавіка паўплываў і на наступныя падзеі. З ім вымушаныя былі лічыцца і нямецкія акупанты, якія афіцыйна не прызналі Беларускую Народную Рэспубліку, але не здолелі (ды і не хацелі) спыніць дзейнасць Рады і ўраду БНР у галіне адукацыі, культуры, сацыяльнай палітыкі і палітычнай дзейнасці ўвогуле. З актам 25 сакавіка аб незалежнасці Беларусі лічыліся і іншыя дзяржавы, якія прызналі незалежнасць Беларусі, у тым ліку Літвы, Латвія, Эстонія, Фінляндыя, Украінская Народная Рэспубліка, Чэхаславакія.

Урэшце бальшавіцкі ўрад у Маскве вымушаны быў лічыцца з абвяшчэннем незалежнасці Беларусі. Сведчаннем гэтага з'яўляюцца дыпламатычныя перамовы прэм'ер-міністра БНР Антона Луцкевіча з прадстаўнікамі савецкага ўраду Расіі восенню 1918 г. у Кіеве і Маскве аб прызнанні Расіяй Беларускай Народнай Рэспублікі. Але перамовы былі спыненыя, і ўрад Расіі прыняў іншы варыянт. 1 студзеня 1919 г. у Смаленску была абвешчана Беларуская Савецкая Незалежная Рэспубліка, як яна была названа ў маніфесце аб яе абвяшчэнні. Але яе пачалі называць Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай (БССР). З гэтай назвай яна і ўвайшла ў гісторыю. Абвяшчэнне БССР было свайго роду адказам савецкага ўраду Расіі ЦК РКП(б) на існаванне Беларускай Народнай Рэспублікі.

У 1918 годзе ўрад БНР зрабіў пэўныя поспехі ў культурным будаўніцтве. У Менску ў гэты час дзейнічаў беларускі клуб мастацкай інтэлігенцыі "Беларуская хатка", у які, між іншым, уваходзілі пісьменнікі Ядвігін Ш. (Антон Лявіцкі), Альберт Паўловіч, Фабіян Шантыр, архітэктар Лявон Вітан-Дубейкаўскі. У горадзе дзейнічалі Першае Таварыства Беларускай Драмы і Камедыі, Таварыства Працаўнікоў Мастацтва, Драматычная Секцыя Беларускай Тэатральнай Грамады, якімі кіравалі Уладзіслаў Галубок, Фларыян Ждановіч і Усевалад Фальскі.

Арганізацыяй беларускіх школ займалася школьная куратoрыя, у якой працаваў Браніслаў Тарашкевіч. Быў арганізаваны Беларускі Педагагічны Інстытут у Менску. Па ўсёй Беларусі працавала некалькі соцень беларускіх школ. У буйных гарадах і павятовых цэнтрах былі створаны беларускія гімназіі. Гэта быў хуткі ўздым беларускай нацыянальнай школы за вельмі кароткі час.

У Менску выходзіла беларуская штодзённая газета. У Горадні выходзіў часопіс "Бацькаўшчына". Тут існавала культурна-асветніцкая таварыства "Лучынка". Тут таксама выходзілі газета "Беларускі народ" і "Часопіс Міністэрства Беларускіх Справаў".

Дзейнічалі ў паветах і культурна-асветныя арганізацыі. Так, у Слуцку пры гімназіі існавала арганізацыя "Папараць-кветка", якая мела літаратурную, краязнаўчую і драматычна-харавую секцыі. Тут ставіліся пераважна творы беларускай драматургіі. Сярод пастановак у 1918 — 1920 гг. былі "Паўлінка" Я. Купалы, "Суд", "Госць з катаргі", "Бязвінная кроў", "Душагубы" і "Апошняе спатканне" У. Галубка, "Рысь" і "Хам" паводле Э. Ажэшкі, "Модны шляхцюк" К. Каганца. У 1920 г. рэжысёрам у Слуцку працаваў Уладзіслаў Галубок.

У гэты ж час беларуская мова пачала ўжывацца і ў святынях. У Менску служыла некалькі каталіцкіх ксяндзоў-беларусаў. Сярод іх былі ксёндз Вінцук Гадлеўскі, ксёндз доктар Фабіян Абрантовіч, які быў рэктарм Каталіцкай духоўнай семінарыі ў Менску, ксёндз Андрэй Цікота і іншыя. Яны прамаўлялі казанні ў касцёлах па-беларуску і вялі навучанне рэлігіі па-беларуску. У менскім катэдральным саборы вёў казанне і чытаў Евангелле па-беларуску менскі біскуп ксёндз З. Ладзінскі (6 снежня 1918 г.). У гэты час беларускія рэлігійныя песні спяваў хор пад кіраўніцтвам рэктара, ксяндза, доктара Ф. Абрантовіча, які, дарэчы, быў прыяцелем Янкі Купалы.

Такім чынам, абвяшчэнне незалежнасці БНР і дзейнасць беларускіх палітычных і культурных дзеячаў моцна паўплывала не толькі на развіццё ідэі дзяржаўнасці Беларусі, палітычны ход падзей, але і на далейшае развіццё адраджэнцкага, культурніцкага руху.

***Анатоль Грыцкевіч.***





# Беларусы ўсяго свету падтрымліваюць ТБМ

*(Працяг. Пачатак на ст. 1.)*

**15.01.2004. Пал. Ігрыч , Менск.**
*Прывітанне! Хачу выказаць свой пратэст супраць таго, што ТБМ імя Ф.Скарыны пакідаюць без будынка(памяшкання) ...*
*P.S. Хаця, пасьля таго,як тут была такая вялікая дыскусія супраць перайменаваньня станцый мэтро Ракаўская і пл. Незалежнасьці, а іх усё роўна перайменавалі, то я ня маю ніякіх спадзяваньняў на гэтую гасьцёўню, бо й мэр й гарсавет абыякава ставяцца й да мовы, й да беларускае культуры ...*

**16.01.2004. Андрэй , Менск.**
*Выказваю гарадскім уладам і асабіста старшыні Менскага гарвыканкаму Міхаілу Паўлаву свой пратэст у сувязі з беспадстаўным пазбаўленьнем будынку.*

**16.01.2004. Andrus Bielarecki , Belarus , Minsk, http://www.pravapis.org/**
Рэдактар сайта: "Паважаны Андрусь, калі Вы хочаце атрымаць дапамогу, Вы спачатку падрабязна напішыце, хто і з якой нагоды Вас выкідае. Толькі, калі ласка, ня трэба палітычных заклікаў".
*Мяне АСАБІСТА ніхто не выкідае. Я жыву ў добрых умовах. Проста я ўбачыў на некаторых сайтах (pravapis. org, svaboda.org, naviny.by, news.akavita.by) інфармацыю пра тое, што ТБМ (Таварыства Беларускай Мовы) выкідаюць з памяшканьня па вуліцы Румянцава 13. Сябры ТБМ зьвярнуліся па дапамогу: сказалі, што па-першае, яны б хацелі адшукаць іншы юрыдычны адрас (на ўсякі выпадак), і па-другое, прасілі, каб чытачы і слухачы накіравалі лісты з просьбамі альбо з пратэстамі ў Гарвыканкам нашай сталіцы. Паколькі я не зусім разумею ў якой форме і куды я мог бы накіраваць такі ліст, я спытаўся тут, у Вашай гасьцявой кнізе. Спадзяюся на дапамогу і спадзяюся, што пытаньне зь сядзібай ТБМ будзе вырашанае.*
*PS. Дзякуй за зьместоўны, інфарматыўны вэбсайт.*
Рэдактар сайта: Паважаны Андрусь, па інфармацыі ЖРЭА Партызанскага р-на Мінска, справа ў тым, што 1 сакавіка 2004 заканчваецца тэрмін пагаднення арэнды паміж ЖРЭА і ТБМ. Па закону ЖРЭА як арэндадавец мае права не заключаць новае пагадненне (з нагоды ўласных планаў на памяшканне) і прапаноўвае ТБМ абмеркаваць варыянты знаходжання новага памяшкання пад офіс. Мяркую, нічога жахлівага не адбудзецца, калі ТБМ проста зменіць адрас, хаця, канешне, яго матываў я, на жаль, не ведаю.

**18.01.2004. Віталь Воранаў , Менск.**
*Я абураны пастановай высяленьня ТБМ з іхняй сядзібы. Як можна ўціскаць адзіную арганізацыю якая рэальна займаецца нацыянальнай мовай? На захадзе гэта для кожнага, нават неадукаванага чалавека, было б недарэчнасьцю і бязглуздзіцай.*

**20.01.2004. Петр.**
*(Віталь Воранаў, Менск Я абураны...) Интересно, зачем Беларуси нужны разно-всякие 'организации', которые 'занимаются языком'? Академии Наук недостаточно?*

**20.01.2004 . Дядя Женя.**
*Петр: Затем, что АН работает из рук вон плохо и пока нет способа заставить ее сделать это лучше.*

**21.01.2004. Петр.**
*Дядя Женя, 'это' сделать - что? Заставить нас всех вдруг заговорить на белорусском? Это изменение общественного сознания, оно не может быть осуществлено административно-приказным методом, иначе это тот самый тоталитаризм, против которого во времена оны боролись уважаемые господа диссиденты. Не стоит ставить телегу впереди лошади. Мне кажется, в области расширения сферы применения бел. языка нужно идти интеллигентным и цивилизованным путем. Когда будет больше бел. языка в быту, тогда он и займет свое место во всех остальных сферах повседневной жизни.*

**21.01.2004. Garry Cooper, Belarus , Mensk!!!**
*Петр. І чым табе не ўгадзіў ТБМ? Ён ніколі не быў канкурэнтам Акадэміі навук, а вырашаў іншыя задачы. А вось Акадэмія навук адназначна зараз практычна нічога не робіць у галіне роднае мовы, а калі і робіць, то гэтага не відно. І наконт высялення ТБМ-штосьці тут не так. Вельмі непрыгожа пагдядае і кепскі пах ад гэтага.*

**23.01.2004. SniT , Belarus , Mensk.**
*Не чапайце калі ласка Таварыства Беларускай Мовы. Мова у наш час ,напэўна,адзіная чым могуць ганарыцца беларусы. І увогуле чаму б ТБМ не аддаць цалкам гэты будынак і не прасіць грошай за арэнду?*

**23.01.2004. Алесь Рэзьнікаў , Мінск.**
*Мяне хвалюе высяленньне ГА "Таварыства беларускай мовы" з сядзібы на вуліцы Румянцава, 13. Ці мог бы гарвыканкам паспрыяць адмене гэтага рашэньня ўлады Партызанскага раёна альбо прапанаваць альтэрнатыўны адрас у цэнтры Мінска для арганізацыі якая спрыяе ўмацаваньню дзяржаўнай беларускай мовы. Спдзяюся на супрацоўніцтва з гарвыканкамам(ў прыватнасьці дапамагу перакласьці на беларускую мову сайт і зрабіць старонку па гісторыі нашага любімага горада).*
*Алесь.*

**23.01.2004. Алесь Шпакоўскі , Belgium.**
*Вельмі сьмешна і сорамна чуць, што ў нашым родным і, як быццам бы, 'цывілізаваным' Менску, улада канфліктуе з прадстаўнікамі Нацыянальных інтарэсаў, якім зьяўляецца Таварыства Роднай Мовы (ТБМ). Каго вы, спадары харошыя там выхоўваеце; які манкурта, забыўшыся пра сваё роднае, стане добрым гаспадаром у якой краіне? Дзяржава - яна ж для таго, каб суцішваць глыбокі боль-жаль, у якім жывуць звычайныя людцы. Што ж за кашчунства вы робіце зь Беларуссю..? Колькі так будзе прадаўжацца..?*

**24.01.2004 Анатоль Бароўскі, Ліцьвінія , Гомель.**
*Гомельская абласная арганізацыя ТБМ імя Францішка Скарыны выказвае рашучы пратэст, нязгоду і абурэньне фактам высяленьня ГА ТБМ з месца, да якога прывыклі шчырыя беларусы, якую шануюць Бацькаўшчыну, і хочуць жыць у краіне без генацыду і прымусу!*

**23.01.2004. Bendramahandal Singh.**
*Пытаньне да старшыні гарвыканкаму горада Менску: "Чаму пазбаўлена памяшканьня Таварыства Беларускай Мовы? Вы хацелі б антызаконна спыніць існаваньне адзінай арганізацыі, што імкнецца падтрымліваць статус і правы беларускай мовы як дзяржаўнай мовы Рэспублікі Беларусь? Варта нагадаць Вам, што парушэньне законаў выклікае адказнасьць за супрацьпраўныя дзеяньні. Пытаньне да рэдактара гэтага сайту: У чым прычына Вашага ігнараваньня пытаньняў, зьмешчаных на беларускай мове? Вы не валодаеце адной з дзяржаўных моваў Рэспублікі Беларусь?*
Рэдактар сайта: Шаноўны спадар Bendramahandal Singh, калі б Вы былі крышачку больш уважлівы і прагледзелі адказы наведвальнікам хаця б за апошні месяц, такіх пытанняў у Вас бы не ўзнікала. Што датычыцца Вашых высакародных імкненняў: падтрымліваць статус і правы беларускай мовы як дзяржаўнай мовы, то яе прававы статус ужо прапісаны ў Канстытуцыі РБ. Іншая справа, што паважлівые адносіны да мовы трэба развіваць, пачынаючы з бытавога ўзроўню, з сябе і сваіх блізкіх, а гэтая справа, як калісьці слушна казаў З. Пазняк, патрабуе сотні год і больш складаная, чым абарона правоў адной арганізацыі.

**28.01.2004 Сяргей Кручкоў , Беларусь , Мінск , http://tbm.iatp.by.**
*Паважаны рэдактар сайта, Вашае паведамленне аб тым, што ЖРЭА Партызанскага раёна г. Мінска нібыта '...прапаноўвае ТБМ абмеркаваць варыянты знаходжання новага памяшкання пад офіс...' - не адпавядае рэчаіснасці. Ні кіраўніцтва ЖРЭА, ні Адміністрацыя Пратызанскага раёна не прапаноўвала ТБМ памяшканняў замест тых, якое Таварыства арандуе. Нам было заяўлена, што на тэрыторыі раёна для ТБМ няма памяшканняў. Просім Вас не ўводзіць у зман жыхароў г. Мінска. Высяленне ж арганізацыі 'у нікуды' прывядзе да таго, што дасць падставы Міністэрству юстыцыі РБ вынесці нам папярэджанне за тое, што наш юрыдычны адрас не адпавядае адрасу ў Статуце арганізацыі. А як вядома, пасля папярэджання на ТБМ можна падаваць зыск аб ліквідацыі ў Вярхоўны суд і зачыняць. Так што высяленне без прадастаўлення памяшкання - фактычна схаваная форма ліквідацыі арганізацыі. Бо ні адна структура не жадае здаваць у арэнду памяшканні па коштах, якія можа заплаціць грамадская арганізацыя.*
*З павагай, намеснік старшыні ТБМ Сяргей Кручкоў (тэл. 284-85-11).*

**28.01.2004. Юры Чавусаў , Беларусь , Мінск.**
*Мне, як карэннаму жыхару Мінска, не зразумелае рашэнне гарадскіх уладаў пазбавіць памяшкання Таварыства Беларускай Мовы. Лічу, што такі зневажальны крок гарвыканкама наняce вялікую шкоду іміджу нашага горада. Я выдатна ведаю, што знайсці памяшканне пад юрыдычны адрас для грамадскай арганізацыі вельмі складана, таму дзеянні Мінгарвыканкама ў дадзеным выпадку могуць прывесці да знішчэння гэтай арганізацыі — аднаго з самых буйных грамадскіх аб'яднанняў краіны.*

**28.01.2004. Алесь , Беларусь , Мінск.**
*Шаноўныя кіраўнікі! Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны - адна з самы масавых і актыўных грамадскіх арганізацыяў Беларусі. Сорамна гэтак не паважаць сваіх суграмадзян, у якіх ёсць СВАЁ меркаванне па праблемах роднай мовы. Што за асоба Рэдактар admin@minsk.gov.by адказвае на пытанні ад імя Мінскага выканаўчага камітэта? Якая вага ў адказах інкогніта?*

**28.01.2004. Andrej, Bielarus , Witebsk.**
*Czami u naszaj krainie nie ma srodkau da dapamohi TBM a mala taho dyk jaszcze josc takija ludzi katoryja zadajuc pazbycca ich isnawannia. paprobujcie sami zrabic choc sztosci padobnaje... Abo my nie zjaulajemsia Bielarusami kali sami nie pastaim za siabie!!!*

**29.01.2004. С. Аляксандраў , Беларусь , Менск , http://mujweb.cz/www/padrucnik.**
*Пратэстую супраць запланаванага высяленьня сядзібы Таварыства Беларускае Мовы! Патрабую пакінуць ТБМ у спакоі й даць магчымасьць людзям спакойна працаваць на карысьць Беларусі.*

**29.01.2004. Ales Kazak , Miensk.**
*Узбураны пазыцыяй гарадзкіх уладаў да пытаньня высяленьня Таварыства Беларускай Мовы з памяшканьня. І ўвогуле, чаму такая непавага да мяне, грамадзяніна Беларусі. Я не магу чытаць гэты сайт, хоць таксама плачу падаткі як і другія гр. Беларусі. Дзе зразумелая для мяне, першая дзяржаўная мова. Адныя негатыўныя эмоцыі...*

**29.01.2004. Юрась Зянковіч, Беларусь , Менск , http://ziankovich.h11.ru.**
*Шаноўная адміністрацыя горада! Мне абсалютна не зразумелае рашэньне гарадзкіх уладаў пра пазбаўленьне памяшканьня ТБМ. Ці не маглі б вы патлумачыць жыхарам Менску — уласьнікам камунальнай уласнасьці гораду — чым выкліканае гэтае рашэньне? Якія такія глыбінныя прычыны вамі кіравалі? Я зараз пішу з Украіны, і тут вашае рашэньне вельмі зьдзівіла ня толькі мяне, але й украінцаў.*

**29.01.2004. Алесь Белы.**
*Чаму ТБМ выганяюць з Румянцава, 13 ? А потым ліквідуюць за тое, што няма юрыдычнага адрасу ? Пратэстую ! Гарадская ўлада парушае мае правы !*

**29.01.2004. Хведар Нюнька , Літва , Вільня.**
*Таварыства Беларускай Культуры ў Літве Вільня, Жыгіманта 12-328 студ. 2004 г.Нр.188*

***СТАРШЫНІ МІНСКАГА ГАРАДСКОГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ***
***Паўлаву Міхаілу Якаўлевічу***
*Рада Таварыства Беларускай Культуры на сваім паседжаньні абмеркавала сытуацыю, ў якой апынулася буйнейшая грамадзкая арганізацыя ў Беларусі 'Таварыства беларускай мовы ім. Ф.Скарыны'.Фактычна ёй адмаўляюць у памешканьні, якое яна займала на працягу 15 гадоў. Нам у Літве немагчыма зразумець такія адносіны да адзінай арганізацыі, якая спрыяе захаваньню і развіцьцю беларускай мовы, якой пагражае поўны занепад. Ад імя беларусаў замежжа патрабуем спыніць акцыю па ліквідацыі ТБМ і адмяніць рашэньне Партызанскага раёна г. Мінска.*
***Старшыня Рады Таварыства Беларускай Культуры ў Літве Хведар Нюнька.***

**29.01.2004. Ждущий трамвая, Минск.**
*ВСЕМ СТОРОННИКАМ ТБМ.*
*СПАДАРСТВА, неужели Вы не замечаете, в какое глупое положение Вы себя ставите? Подумайте, ЧЕГО СТОИТ ЯЗЫК СУДЬБА, КОТОРОГО ЗАВИСИТ ОТ СУЩЕСТВОВАНИЯ ОДНОЙ ОРГАНИЗАЦИИ? То что происходит между ТБМ и ЖРЭО - не более, чем хозяйственный спор. Одни хотят аренду подешевле и в центре города, другие хотят взять с них подороже. Если же Вы действительно озабочены судьбой любимого ТБМ, скиньтесь каждый сколько может на аренду площади. Или вы способны только в интернете патриотизм демонстрировать? Безопасно, а главное дешево.*

**29.01.2004. Дядя Жена.**
*Ждущему трамвая. Вопрос: где сказано, что ЖЭС хочет 'взять подороже'. Хотел бы директор ЖЭСа (кстати, еще вопрос, на каком основании) 'взять подороже' — предложил бы новые условия договора.*

**30.01.2004. Пётр Рэзванаў, Мінск.**
*Тым, хто за ТБМ прапаноўваюць 'скінуцца'? Калісьці ў СП адабралі Дом пісьменнікаў, маўляў, не на іх грошы пабудаваны. А сядзібу ТБМ, наколькі я памятаю, даваў Савет (ці тады ён быў Кабінетам) Міністраў. Дык якое да ўсяго гэтага мае дачыненне нейкае ЖРЭО. І яшчэ: адна арганізацыя надвор'я не робіць, але, калі перашкаджаюць працаваць то адной, то другой - 'тэндэнцыя, аднак!' - супраць тэндэнцыі і змагаемся. Але і самі (без усялякіх арганізацый) на мове размаўляем.*

*(Заканчэнне на ст. 5.)*

# Беларусы ўсяго свету падтрымліваюць ТБМ

*(Заканчэнне.)*

**30.01.2004. АЕА, Менск.**
*Малайчынка, Ждущий трамвая! Добра Вы іх усіх. Здаецца, па Вашых выказваньнях гісторыю добра ведаеце сваёй краіны, мову, ды ўзрост, напэўна, пэнсійны ці прадпэнсійны. Такіх ужо мала. Тыя, хто зроблены ў СССР, больш не патрэбныя.*

**30.01.2004. АЕА, Менск.**
*ТБМ будзе жыць! Колькі б яго не кідалі з будынка ў будынак, яно будзе з намі. 'Я веру, што так калі-небудзь будзе, а йнакш проста ня варта жыць'*

**30.01.2004. Минчанка, Минск.**
*Поддерживаю Ждущего трамвай. И, действительно, как-то становиться тревожно от того, что члены ТБМ разитие бел. языка поставили в прямую зависимость от удобного помещения.*

**30.01.2004. Прадпрымальнік.**
*Колькі ж можна здзекавацца над ТБМ? Нагадаю, што Мінгарвыканкам існуе не толькі на падаткі рускамоўнай часткі насельніцтва. Чаму няма павагі да беларускамоўных гараджан? Хопіць!*

**30.01.2004. Антон П., Менск.**
*Навошта прычапіліся да ТБМ? І так беларускую мову душаць (сорамна, што нават сайт сталіцы краіны не мае беларускага варыянту), дык яшчэ і ТБМ трэба выжыць.*

**31.01.2004. Аляксей Лапіцкі, Беларусь, Жодзіна.**
*Мы вельмі занепакоены фактам вясяленьня ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" з памяшканьня па вул. Румянцава, 13, якое яно займае з 1989 года, з моманту свайго заснаваньня. Выказваем свой пратэст неабдуманым дзеяньням уладаў і спадзяемся на тэрміновы перагляд падобнага рашэньня. Мы прапануем Вам, шаноўны Міхаіл Паўлавіч, паспрыяць адмове неабгрунтаванага рашэньня мясцовай улады Партызан-скага раёна г. Менску і захаваць згаданае вышэй памяшканьне за цэнтральнай сядзібай буйнейшай грамадзкай арганізацыі, якая спрыяе разьвіцьцю дзяржаўнай беларускай мовы і абараняе лінгвістычныя правы грамадзян Беларусі.*

**31.01.2004. Пётр Мурзёнак. Канада, Атава.**
*Беларусы Канады заклапочаны сітуацыяй, якая складваецца вакол Таварыства беларускай мовы, і якая нагадвае сітуацыю з Беларускім гуманітарным ліцэем. Немагчыма ўявіць сабе забарону дзейнасці і закрыццё такіх устаноў на Беларусі, якія спрыяюць рэальнаму адраджэнню беларускага народа. Звяртаемся да адказных асобаў горада з просьбай стварыць максімальна спрыяльныя умовы для працы ТБМ і Беларускага гуманітарнага ліцэю і не ганьбіць сябе, горад і нашу краіну.*
*Пётр Мурзёнак.*
*Па даручэнні Згуртавання Беларусаў Канады.*

**31.01.2004. Хоміч Генадзь, Беларусь , Пінск.**
*Адчапіцеся ад маёй арганізацыі. Лепей думайце дзе грошы на газ знайсьці.*

---

03 лютага 2004 г.

**1. Сп. С. С. Сідорскаму**
**Прэм'ер-міністру Рэспублікі Беларусь**
**220010, г. Мінск, вул. Савецкая, 1, Дом Ураду**

**2. Спадару Г. В. Навіцкаму**
**Старшыні Савета Рэспублікі**
**Нацыянальнага сходу Беларусі**
**220010, г. Мінск, пл. Незалежнасці, Дом Ураду**

**3. Спадару В.А. Папову**
**Старшыні Палаты прадстаўнікоў**
**Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,**
**220010, г. Мінск, пл. Незалежнасці, Дом Ураду**

Да вас звяртаецца кіраўніцтва адной з самых масавых грамадскіх арганізацый Беларусі - Рада Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны", якая сёлета будзе адзначаць 15 гадоў сваёй дзейнасці. Рашэнне аб стварэнні ТБМ было зацверджана Прэзідыюмам Вярхоўнага Савета БССР 28.09.89. Яго заснавальнікамі, акрамя іншых, былі Міністэрствы адукацыі, культуры, інфармацыі, Інстытут мовы і Інстытут літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Пэўны час яго дзейнасць падтрымлівала дзяржава, як маральна, так і матэрыяльна. І гэта натуральна, таму што галоўная задача Таварыства — развіццё і захаванне чысціні роднай мовы тытульнай нацыі. Па вялікім рахунку, арганізацыя разам з афіцыйнымі структурамі стаіць на варце нацыянальнай бяспекі краіны.

На пачатку незалежнасці Рэспублікі Беларусь многія міністры краіны былі сябрамі ТБМ і ўваходзілі ў склад яго Рады, ганаровым сябрам быў і прэм'ер-міністр. Наша арганізацыя мела дзяржаўную падтрымку і ў выданні газеты "Наша слова".

Пасля 1996 года сітуацыя рэзка змянілася. Беларускую мову і нацыянальную сімволіку сталі выкараняць, а ТБМ нават выселілі са сваёй сядзібы. Аднак мы выстаялі, вярнуліся ў сваё памяшканне, выдаем за свой кошт дзве агульнанацыянальныя газеты, плённа супрацоўнічаем з рознымі дзяржаўнымі і недзяржаўнымі ўстановамі і арганізацыямі, своечасова плоцім падаткі і арэндную плату. Многія нашыя ініцыятывы падрымліваюць Канстытуцыйны Суд і Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Беларусі, іншыя дзяржаўныя ўстановы.

Але некаму спатрэбілася выселіць нас з сядзібы па вул. Румянцава, 13, дзе мы знаходзімся з 1989 года, і пазбавіць юрыдычнага адрасу. Рашэннем выканаўчай улады Партызанскага раёна Мінска мы павінны вызваліць арандаванае памяшканне да 04.03.04 г. Пры гэтым анічога іншага ўзамен не прапануецца. У выпадку высялення грамадскае аб'яднанне губляе юрыдычны адрас трох сваіх арганізацый: Рэспубліканскай, Мінскай гарадской і Партызанскай раённай і дзвюх газет "Наша слова" і "Новы Час", што можа стаць падставай для яе закрыцця.

Наш зварот да кіраўніка мінскай выканаўчай улады спадара Паўлава , падтрыманы тысячамі подпісаў грамадзян Беларусі, пакуль што застаецца без адказу.

Просім Вас вырашыць гэтае пытанне шляхам перадачы нашых памяшканняў па вул. Румянцава, 13 у бестэрміновую арэнду і такім чынам выказаць сваё стаўленне да дзяржаўнай беларускай мовы, мовы нашых далёкіх і блізкіх продкаў.

Спадзяемся на Вашае разуменне і падтрымку.

**Старшыня ГА**
**"Таварыства беларускай мовы"**
**Алег Трусаў.**

---

Спадару **Уладзіміру Несцеравічу Дражыну**
Намесніку прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь
220010, г. Мінск, вул. Савецкая, 11, Дом Ураду

Мы, грамадзяне Рэспублікі Беларусь, занепакоеныя фактам высялення ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" з памяшкання па вул. Румянцава, 13, якое яно займае з 1989 года, з моманту свайго заснавання.

Прапануем Вам, шаноўны Уладзімір Несцеравіч, вырашыць пытанне перадачы Таварыству беларускай мовы памяшканняў па вул. Румянцава, 13 у бестэрміновую арэнду і такім чынам паказаць усім сваё сапраўднае стаўленне да дзяржаўнай беларускай мовы, Вашай роднай мовы, мовы Вашых далёкіх і блізкіх продкаў.

| № | Прозвішча, імя, імя па бацьку | Хатні адрас | Дата | Подпіс |
|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | |
| 2 | | | | |
| 3 | | | | |
| 4 | | | | |
| 5 | | | | |
| 6 | | | | |
| 7 | | | | |
| 8 | | | | |
| 9 | | | | |
| 10 | | | | |
| 11 | | | | |
| 12 | | | | |
| 13 | | | | |
| 14 | | | | |
| 15 | | | | |

# МОЙ ШЛЯХ ДА КНІГІ

***29 студзеня ў будынку гістарычнай майстэрні ў Менску адбылася прэзентацыя кнігі Захара Шыбекі, на якой прасутнічала болей за 100 чалавек. З цікавымі паведамленнямі пра тое, як ствараліся кнігі Генадзя Сагановіча і Захара Шыбекі выступілі Адам Мальдзіс, Анатоль Грыцкевіч, Алег Трусаў і Зміцер Колас. У спрэчках выказалі свае адносіны да кнігі і яе аўтара Кузьма Козін, Уладзімір Арлоў, Аляксей Саламонаў і іншыя.***

***Сярод прысутных былі распаўсюджаны апошнія нумары газет ТБМ "Наша слова" і "Новы час". Пісьмовы варыянт выступу аўтара кнігі Захара Шыбекі мы прапануем нашым чытачам.***

***Наш кар.***



***Падчас прэзентацыі кнігі. Першы справа Захар Шыбека.***

У канцы мінулага 2003 года з друку выйшла мая кніжка "Нарыс гісторыі Беларусі (1795—2002)", якая стала працягам ужо вядомай чытачам кніжкі Генадзя Сагановіча "Нарыс гісторыі Беларусі ад старажытнасці да канца XVIII стагоддзя" (Мінск, 2001). У выніку завершана выкананне праекта, задуманнага каля 13 год таму назад. Аж трынаццаць год! Пра што гэта сведчыць?

Як павольна рухаецца наша нацыянальная справа. Але рухаецца. І зараз Беларусь мае суцэльную версію ўласнай гісторыі, напісаную па агульнапрынятых у свеце правілах. Можна сказаць, створана еўрапейская канцэпцыя беларускай гісторыі. Няпростай гэта было справай. І пра тое таксама сведчыць 13-гадовы тэрмін яе выканання.

Пачыналася ж усё для мяне, як гэта ўжо і адбывалася ў свеце, ад Адама. У студзені 1991 г. па запрашэнні прафесара Адама Іосіфавіча Мальдзіса перайшоў на працу з АН Беларусі ў створаны ім Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны. А ў 1992 г. быў уключаны ў склад міжнароднага творчага калектыву на чале з прафесарам Ежы Клачоўскім (Люблін) для распрацоўкі паралельнай гісторыі Беларусі, Польшчы, Літвы і Украіны. Фактычна я замяніў тады ў звязцы з Генадзем Сагановічам Аляксея Ліцвіна, які чамусьці саступіў мне месца. Не ведаю, праўда, ці варта дзякаваць за гэта майму калегу. Бо прыйшлося прайсці праз сур'ёзныя выпрабаванні, каб завяршыць працу. Ды і з гатовай кнігай выпрабаванняў, думаю, будзе не меней.

Які быў шлях да кнігі?

Трое маладых гісторыкаў, я, Генадзь Сагановіч і Алег Трусаў (тагачасны дэпутат Вярхоўнага Савета і кіраўнік праекту з беларускага боку), рынуліся на Захад, каб адваяваць месца для Беларусі ў еўрапейскай гістарыяграфіі, даказаць, што і беларусы нечага вартыя. Першы варыянт тэксту быў падрыхтаваны ў 1994 г. Мы апярэдзілі іншых удзельнікаў праекту.

Які раз прафесар Ежы Клачоўскі збіраў прадстаўнікоў чатырох краінаў для дыялогу, але з гатовымі тэкстамі з'яўляліся толькі беларусы. Таму нас і крытыкавалі па чарзе – палякі, літоўцы, украінцы. А мы іх тэксты практычна не бачылі. Вось такі быў дыялог. Генадзю больш даставалася ад літоўцаў з-за пасягацельства на ВКЛ, мне – ад палякаў з-за аднолькавага дыстанцыянавання і ад Расіі, і ад Польшчы. Палякі лічылі сябе ўсё ж лепшымі за расійцаў. Але чым больш на нас ціснулі палякі і літоўцы (украінцы часцей хвалілі), тым больш дасведчанымі мы з Генадзем станавіліся.

Праўда, Алег Трусаў не ішоў асабліва на ўступкі і перагаворваў усіх. Яго слухалі. Дзякуючы гэтаму нашы суседзі сталі больш нас разумець. Палякі, праўда, не спяшаліся выдаваць нашы кніжкі на польскай мове. Урэшце, у нас з'явілася "цяжкая артылерыя". Прафесар Анатоль Грыцкевіч быў непрымірымым да літоўцаў, ва ўсім згаджаўся з палякамі, а на самай справе ва ўсім падтрымліваў сваіх беларускіх аўтараў.

Алег Трусаў адваяваў пляцоўку. Анатоль Грыцкевіч давёў справу да перамогі. Ролю штабнога генерала мусіў браць на сябе Адам Мальдзіс і ўсё цвердзіў, што палякі хутчэй здадуцца, што мая кніга будзе раней надрукавана ў Польшчы, чым у Беларусі.

Так яно і выйшла. Мая кніжка спачатку пабачыла свет у Польшчы ў 2002 г. адначасова з кніжкай Генадзя Сагановіча. Пераклад з беларускай на польскую мову зрабіў гісторык з Любліна Губерт Лашкевіч. Першая спроба перакладу была няўдалай і беларускі бок яе проста не прыняў. А тут, у Беларусі, мая праца, як бачым, была надрукавана толькі амаль праз два гады пасля выхаду ў Польшчы.

Чаму так здарылася? Думаю, ва ўсім вінаваты Адам Мальдзіс – напраракаваў. А калі сур'ёзна, то і так зразумела, чаму новы погляд на новую і найноўшую гісторыю Беларусі доўгі час быў незапатрабаваным. Грамадская роля гісторыі гагэтуль не даацэньваецца.

Ужо ў 1993 г. я падаў адзін з раздзелаў сваёй працы ў Фонд Сораса ў Беларусі з мэтай атрымання гранта на яе дапрацоўку і надрукаванне. Разам з адказам мне вярнулі тэкст размалёваны чырвоным прафесарам. Усе новыя аўтарскія меркаванні былі падкрэслены. Аказваецца я ўсё, літаральна ўсё, ацэньваў не так. Праз нейкі час мы з Генадзем падалі заяўку ў Фонд Сораса ўжо ўдваіх. Пакуль нас праўралі, рэцэнзавалі і ў Беларусі і за мяжой, пакуль перасылалі і перакладалі папкі з аднаго месца ў другое, Сорас прыпыніў сваю дабрачынную дзейнасць у нашай краіне.

Адзінае што ўдалося, дык гэта надрукаваць 17 з 35 раздзелаў "Гісторыі Беларусі ў XIX—XX стагоддзях" у газеце "Голас Радзімы", дзякуючы яе рэдактару Вацлаву Мацкевічу. Тэксты даваліся ў выглядзе разабраных кніжных старонак, і некаторыя чытачы выразалі іх і брашуравалі для зручнасці пастаяннага карыстання. Асобныя раздзелы з працы былі надрукаваны пазней у часопісе "Спадчына", калі я працаваў галоўным рэдактарам гэтага выдання.

Але ўрэшце дачакаўся і кніжкі. Выхад "Нарыса" для мяне не менш важная падзея, чым выхад працы пра Мінск. А можа і большая. Я рады і ўдзячны, што прафесар Ежы Клачоўскі і Фонд Сораса маю кніжку не выдалі ў 1994 г., калі быў гатовы яе першы варыянт. Я атрымаў дзесяць год, каб прайсці шлях да нацыянальнага гісторыка і наблізіцца да гісторыка еўрапейскага ўзроўню. Я рады і ўдзячны, што атрымаў магчымасць выдаць кнігу і напісаць у ёе амаль усё тое, што думаю.

Нейкае ўяўленне пра маю працу дае яе змест.






Кніжку можна набыць: "Акадэмкніга", сядзіба ТБМ, бібліятэка НАН Беларусі (спытаць Шыбека Ірыну), "Падпісныя выданні", "Светач".

У Любліне плануецца другое выданне. Зразумела, што мне хацелася, каб другое выданне пабачыла свет і ў вольнай Беларусі.

***Захар Шыбека,***
***доктар гістарычных навук.***

# Праблемы ўсходнеславянскай этналінгвістыкі

*У выданне пад такой назвай увайшлі матэрыялы Першай міжнароднай этналінгвістычнай канферэнцыі "Праблемы ўсходнеславянскай этналінгвістыкі", якая адбылася 25 – 26.X.2003 года ў Менску і была прысвечана 80-гаддзю заснавальніка гэтай галіны філалогіі ва ўсходняй Славіі, выдатнаму вучонаму-славісту, акадэміку Расійскай, Македонскай і Аўстрыйскай акадэмій Мікіце Талстому (1923-1996), Чатыры раздзелы матэрыялаў ("Гісторыя этналінгвістыкі", "Фальклор у этналінгвістычных даследаваннях", "Роля этналінгвістыкі ў захаванні этнакультуры", "Этналінгвістыка-літаратура-мова") складаюць асобна падрыхтаваныя матэрыялы, даклады, паведамленні і выступленні на канферэнцыі: пераемніцы справы мужа ў Інстытуце славістыкі РАН Святланы Талстой, вучоных Масквы, Варшавы, Менска, Віцебска, Гомеля, Веткі, вучняў Талстога з Германіі і Турцыі Валерыя Макіенкі і Мікалая Антропава, прафесара Варшаўскага універсітэта Аляксандра Барычэўскага.*




*Выданне матэрыялаў найбольш перспектыўнага этналінгвістычнага кірунку ў філалогіі, які мае мэтай комплекснае даследаванне сучасных праблем, будзе карысным большасці яе даследчыкаў – мовазнаўцам, фалькларыстам, літаратуразнаўцам, а таксама этнакультуролагам, гісторыкам, філосафам і прадстаўнікам іншых галін навукі, усім, хто цікавіцца народазнаўствам, этналогіяй.*

У 2003 годзе споўнілася 80 год з дня нараджэння выдатнага рускага этналінгвіста Мікіты Ілліча Талстога (1923-1996). Ён нарадзіўся ў горадзе Варшац (Сербія) у сям'і ўнука Льва Талстога Іллі і Вольгі Талстых, даследаваў духоўную культуру славянскіх народаў, іх мовы, дыялекталогію, фальклор, тапаніміку, этнаграфію і гісторыю. Доктар філалагічных навук (1972), прафесар (1973), член Расійскай, Македонскай і Аўстрыйскай акадэмій навук. З 1954 года пачаў вялікую працу па стварэнню этналінгвістыкі як самастойнай галіны філалогіі спачатку ў Расіі ў Інстытуце славістыкі і балканістыкі ў Маскве, а з 1962 года і на Беларусі. Пад яго ўздзеяннем узніклі цэлыя школы этналінгвістаў у Менску, Гомелі, Мазыры, Бранску, Чарнігаве, Жытоміры і многіх іншых гарадах Палесся. Абрадавая культура, па яго ўласным выказванні, "гэтага ўнікальнага рэгіёну для даследчыка старажытнаславянскага перыяду" была для вучонага прадметам глыбокага зацікаўлення і даследавання на працягу ўсяго апошняга перыяду жыцця.

З 1968 года арганізоўваў і ўзначальваў да самай Чарнобыльскай катастрофы 1968 года спачатку дыялекталагічныя, а з 1975 – комплексныя этналінгвістычныя экспедыцыі сіламі створаных ім этналінгвістычных цэнтраў на Палессі, вынікам якіх стаў багаты Палескі архіў у Маскве ў цяперашнім Інстытуце славістыкі РАН. Матэрыялы яго выдаваліся ў зборніках: "Лексіка Палесся: Матэрыялы для дыялектнага слоўніка" (1968); "Палессе: Лігвістыка. Археалогія. Тапаніміка." (1968); "Лексіка Палесся ў прасторы і часе" (1971); "Палескі этналінгвістычны зборнік. Матэрыялы і даследаванні" (1983). У іх Мікіта Талстой выступае як аўтар, сааўтар і рэдактар прац "Аб даследаванні палескай лексікі", "Вызыванне дажджу на Палессі", "Аб задачах этналінгвістычнага даследавання Палесся", "Аб рэканструкцыі праславянской фразеологіі", "Вярбальны тэкст як ключ да семантыкі абраду", "Аб прадмеце этналінгвістыкі і яе ролі ў вывучэнні мовы і этнасу", "Заўвагі па славянскай дэманалогіі", "Са славянскіх этнакультурных старажытнасцяў", "Народная этымологія і структура славянского рытуальнога тэкста", "Слова ў абрадавым тэксце", "Міфалагічнае ў славянскай народнай паэзіі" і шматлікіх іншых. Значнай з'явай у навуцы стала яго манаграфія "Мова і народная культура" (М., 1995).

З вынікамі палескіх даследаванняў Талстой пастаянна знаёміў удзельнікаў на разнастайных навуковых канферэнцыях і ўсеславянскіх форумах, з'ездах і публікаваў у кнізе "Праблемы славянскай этнаграфіі" і серыйным выданні "Славянскі і балканскі фальклор", якое друкуецца з 1978 года.

Выдатна адзначыла юбілей мужа Святлана Талстая – прадаўжальніца яго справы, загадчык сектара этналінгвістыкі і фальклору Інстытута славістыкі РАН, ганаровы старшыня канферэнцыі. Як укладальнік і адказны рэдактар, яна падрыхтавала фундаментальнае выніковае выданне прац Мікіты Талстога "Нарысы славянскага язычніцтва" (М., 2003), якое, няма сумнення, будзе метадалагічнай асновай дзейнасці этналінгвістаў, моваведаў, фалькларыстаў і гісторыкаў культуры ў XXI стагоддзі. Сектарам два выдадзены ў 1995 і 1999 і два падрыхтаваны да выдання кнігі будучага 5-томнага фундаментальнага слоўніка "Славянскія старажытнасці".

Праўнук Льва Талстога, таленавіты даследчык духоўнай культуры славянскіх народаў сцвердзіў унікальнасць старажытнай культуры Палесся ў перадчарнобыльскі перыяд і гэтым здзейсніў навуковы вычын.

***Васіль Ліцьвінка.***

*СЛАВУТЫЯ СУАЙЧЫННІКІ*

# У памочніках у яго хадзіў Нобелеўскі лаўрэат



У апошні час у сувязі з атрыманнем расійскімі фізікамі В. Гінзбургам і А.Абрыкосавым (а раней і Ж. Алфёравым) Нобелеўскай прэміі і шматлікімі публікацыямі ў друку пра іх дзейнасць, узнікае жаданне ўспомніць імёны тых вучоных – ураджэнцаў Беларусі, уклад якіх у навуку вельмі значны, але незаслужана забыты ў грамадстве. Адзін з такіх вучоных – В.А. Цукерман – заснавальнік айчыннай імпульснай рэнтгенаграфіі.

Нарадзіўся Веньямін Аронавіч Цукерман у красавіку 1913 года ў Віцебску. Яго сям'я была невялікая – маці, бацька і малодшы брат. Жылі сціпла, асабліва пасля смерці бацькі ў 1922 годзе. Ад маці дасталіся будучаму вучонаму музычныя здольнасці, але любоў і цікавасць да тэхнікі перамаглі.

Цукерман вывучыўся чытаць у 6 гадоў па шыльдах, бо школы ў 1919 годзе не працавалі. А ў 9 гадоў ён выканаў першую, цяжкую для гэтага ўзросту задачу – правёў святло ў сваю кватэру. Грошы збіраліся паўгода, але якое задавальненне атрымаў хлопец, сваімі рукамі зрабіўшы гэткі цуд. У 12 гадоў ён захапіўся радыётэхнікай, пабудаваў дэтэктарны радыёпрыёмнік. Усё гэта рабілася з вялікай настойлівасцю і напорыстасцю.

У 1928 годзе, скончыўшы Віцебскую сямігодку, Цукерман пераязджае ў Маскву, каб там працягнуць сваю адукацыю. Ён паступае на чарцёжна-канструктарскія курсы. Хутка пасля іх заканчэння і атрымання дыплома аб сярэдняй адукацыі і будаўнічай спецыяльнасці адбылася шчаслівая сустрэча. Цукерман часта наведваўся ў Ленінскую бібліятэку, каб пачытаць часопісы і кнігі па радыётэхніцы. Аднойчы ў часы такіх заняткаў да яго падышоў чалавек гадоў трыццаці і запытаўся, ці не працуе той у галіне радыётэхнікі. Цукерман адказаў, што не, ён проста аматар. І незнаёмец папрасіў яго заняць месца лабаранта ў рэнтгенаўскай лабараторыі. Гэта быў Яўген Фёдаравіч Бахмецеў. Так вырашыўся лёс чалавека. Пачаўшы працаваць у лабараторыі з 16 гадоў, Цукерман не пакідаў яе ўсё жыццё, аддаўшы любімай справе 60 гадоў.

У 1934 годзе Цукерман атрымаў месца загадчыка рэнтгенаўскай лабараторыі Маскоўскага машынабудаўнічага інстытута. А калі была арганізавана лабараторыя ў Благавешчанскім завулку, у Веньяміна Аронавіча з'явіліся новыя сябры. Першым у лабараторыю прыйшоў зусім малады Віталь Гінзбург. Праз некалькі дзесяцігоддзяў ён стане знакамітым акадэмікам. Восенню ён атрымаў Нобелеўскую прэмію за працы паўвекавой даўнасці, якія ляглі ў аснову тэорыі звышправоднасці. Другім стаў Леў Альтшулер – вядомы спецыяліст па метадах атрымання звышвысокіх ціскаў. З ім Цукерман будзе працаваць разам больш за тры дзесяцігоддзі.

Хуткаснай рэнтгенаграфіяй Цукерман і Альтшулер пачалі актыўна займацца з 1934 года. У 1936 годзе з'явіліся іх першыя публікацыі на гэтую тэму. А ў 1940 годзе яны рэнтгенаграфавалі свабоднае падзенне металічнага керна пры хуткасці руху – 7-8 метраў у секунду. Навучыўшыся атрымоўваць выразныя рэнтгенаграмы, яны перайшлі да доследаў з куляй.

Доследы вучоныя праводзілі ў Палітэхнічным музеі, там Цукерман працаваў па нядзелям кіраўніком рэнтгенаўскага аддзела. За лекцыі добра плацілі, а ў яго была вялікая сям'я.

У сакавіку 1940 года В. А. Цукерман разам з Аляксандрам Іванавічам Аўдзеенкам упершыню ў СССР атрымалі рэнтгенаграму малакаліберпай кулі ў свабодным палёце.

У гады Вялікай Айчыннай вайны інстытуты Акадэміі навук былі адразу эвакуяваны. Працу працягнулі ў Казанскім дзяржуніверсітэце. Займаліся рознымі рэчамі, у тым ліку ружэйным бутэлькамётам.

Нейкі час Цукерман правёў у шпіталі, адкуль, дзякуючы клопатам жонкі, хутка выйшаў. Разам яны пераехалі ў Галутвін, дзе знаходзілася КБ знакамітага спецыяліста па мінамётах Шавырына. Адзін з канструктараў расказаў пра дзіўныя камулятыўныя нямецкія снарады. Было невядома, як яны прабіваюць танкавую браню і падпальваюць танкі.

У адну з неспакойных начэй – немцы зноў бамбілі Маскву і наваколле – Цукерману прыйшла ў галаву ясная думка – трэба даследваць узрывы метадамі імпульснай рэнтгенаграфіі.

Ён распавёў пра задумку Ю. Б. Харытону – спецыялісту ў галіне выбуху. Той пагадзіўся, і хутка ў Казані арганізавалі камеру для вывучэння выбуховых рэакцый рэнтгенаўскімі праменямі. Першую рэнтгенаграму атрымалі ў канцы 1942 года, а ў 1943 годзе доследы па імпульснай рэнтгенаграфіі сталі праводзіцца рэгулярна. У 1944 годзе працу працягнулі ў Маскве. Ужо было вядома, якім чынам адбываецца прабой брані – дробнымі часткамі металу абалонкі, якая знаходзілася ўнутры кумулятыўнай выемкі.

Пачалася пабудова імпульсных рэнтгенаўскіх установак у некалькіх маскоўскіх інстытутах.

У кастрычніку 1944 года Цукерман атрымаў першую ўзнагароду – ордэн "Знак пашаны" – за працы ў галіне імпульснай рэнтгенаграфіі выбухаў. А ў студзені 1946 года разам з Альтшулерам – Сталінскую прэмію.

У 1947 годзе шмат вучоных працавалі "на аб'екце" па-за сталіцай, дзе галоўным эксперыментатарам, натхняльнікам і кіраўніком шматлікіх даследванняў быў Веньямін Аронавіч.

Цукерман лічыў сабе шчаслівым чалавекам, хаця лёс часам быў жорсткі да яго: пагаршэнне зроку і поўная слепата ў 45 гадоў, страта слыху яго 9-гадовай дачкой, трагічная смерць горача любімага 17-гадовага сына пасля цяжкай невылечнай хваробы. Але Цукерману давялося працаваць з вельмі добрымі людзьмі, яму пашанцавала з жонкай – З. М. Азарх, унучкай.

Разам з жонкай Цукерман напісаў кнігу – "Людзі і выбухі", а самому вучонаму прысвечны нумар навукова-папулярнага часопіса "Атам".

В. А. Цукерман памёр у 1993 на 79 годзе жыцця. На мемарыяльнай дошцы на будынку інстытута, дзе ён да апошняга дня працаваў, выгравіраваны ўсе тытулы і ўзнагароды вучонага, які ўсё жыццё лічыўся "закрытым": "...Таленавіты вынаходнік, Герой Сацыялістычнай Працы, лаурэат Ленінскай і Дзяржаўнай прэмій, доктар тэхнічных навук, прафесар Веньямін Аронавіч Цукерман, заснавальнік айчыннай імпульснай рэнтгенаграфіі, распрацоўшчык і выпрабавальнік ядзернай зброі, плённы прапагандыст навукі і культуры".

***Кацярына Лобан***





# СЬВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ ВІТАЛЯ КАЖАНА (9.X.1916 – 17.I.2004)



Жыцьцё чалавека вымяраецца працавітасьцю й адданасьцю высакароднай справе. З гэтага гледзішча жыцьцё сьв. пам. Віталя Кажана было поўным, багатым і прыгожым. Плён ягонай самаахвярнай працы ды працы ягонай жонкі, спадарыні Любы, застаўся ўвасобленым у дзецях, належна ўзгадаваных і адукаваных, ды ва ўзмоцненым стане беларускай нацыянальнай справы, якой нябожчык аддаў увесь свой вольны ад заробкавай працы час у якасьці доўгагадовага Скарбніка й сябры Прэзыдыюму Рады БНР.

Віталю Кажану давялося прайсьці складаны жыцьцёвы шлях ад роднае Дзісьненшчыны да амэрыканскага гораду Стамфарду ў штаце Канэтыкэт, дзе ён пахаваны. Апошнія гады, праўда, ён жыў у гарадку Пэнінгтане ў штаце Нью-Джэрзі, але ў Стамфардзе ён пражыў большую частку свайго жыцьця ў Амэрыцы.

Жыцьцё Віталя пачалося ў невялікай вёсцы Балбекі над прыгожай рэчкай Мнютай. Там ён вырас у сям'і прадпрыймальнага выхаджэнца зь сялянскай сям'і, які, здабыўшы сякую-такую асьвету, атрымаў пасаду сакратара ў земскага начальніка. Маці Віталя паходзіла з добра заможнай сялянскай сям'і. Бацькі мелі 20-гэктарную гаспадарку.

Пад польскай акупацыяй Заходняй Беларусі бацька спачатку быў выбраны за войта мясцовай гміны, але пасьля трох гадоў працы яго звольнілі за нястачу "польскасьці" і ён заняўся гандлем.

Віталь, дзякуючы сваім здольнасьцям і бацькавай ініцыятыўнасьці, скончыў у Дзісьне польскую гімназію, адбыў вайсковую службу ды ў 1938 г. падаўся на афіцэрскую школу, куды быў прыняты не зважаючы на ягоную праваслаўную веру. Пасьля польска-нямецкай вайны працаваў настаўнікам у родных мясцінах..

У жніўні 1942 г. адбыў першыя курсы беларускіх афіцэраў у Менску, адкуль быў пасланы ў Браслаў для вядзеньня падафіцэрскіх курсаў для будучай Беларускай Самааховы. Як ведама, немцы паставіліся адмоўна да Беларускай Самааховы. У выніку гэтага Віталь Кажан працаваў пэўны час у горадзе Глыбокім сакратаром і заступнікам акруговага старшыні Беларускай Народнай Самапомачы.

У сакавіку 1943 г., на пастанову беларускага актыву, пачаў у Вялейцы працу загадчыка беларускай канцылярыі пры нямецкай установе.

Беларусь пакінуў у чэрвені 1944 году. У Бэрліне працаваў у аддзеле Беларускай Цэнтральнай Рады, браў удзел у рыхтаваньні беларускіх афіцэраў. У лістападзе 1944 г. палкоўнік Францішак Кушаль паклікаў яго на становішча свайго ад'ютанта.

1 сакавіка 1945 г. Віталь ажаніўся з Жэняй Кароль, якая працавала ў канцыляры палкоўніка Кушаля. У красавіку таго ж году, калі альянты дабівалі гітлераўскую Нямеччыну і ўзьнікла пагроза апынуцца пад савецкім кантролем, Кажаном удалося перабрацца ў заходнюю частку краіны, што апынулася ў руках амэрыканцаў.

Пасьля некалькіх пераездаў зь лягеру ўцекачоў у лягер, Віталь Кажан, маючы вайсковую асьвету й практыку, трапіў на становішча заступніка каманданта лягернай паліцыі ў Шляйсгайме, што недалёка ад Мюнхэну. Там ён прабыў ад ліпеня 1946-га па люты 1948 году. Пасьля пераезду ў лютым 1948 г. у беларускі лягер Остэргофэн пачаў выконваць абавязкі адміністратара газэты "Бацькаўшчына", а ад лістапада таго ж году – яшчэ й абавязкі каманданта лягернай паліцыі. Апрача гэтага, быў сакратаром Беларускага Нацыянальнага Камітэту на Амэрыканскую зону Нямеччыны.

У кастрычніку 1948 г. прайшоў спэцыяльныя курсы для камандантаў лягернай паліцыі ў горадзе Штутгарце, дзе ад імя ўсіх курсантаў вітаў жонку прэзыдэнта ЗША Элеанору Рузвэльт.

У чэрвені 1949 г., калі быў арганізаваны адзіны лягер для беларусаў у Роззнгайме, працаваў там бухгалтарам аддзелу прадуктаў ды аднačасна прайшоў курсы ангельскай мовы. Працаваў там жа выкладчыкам пачаткаў ангельскай мовы ў лягернай беларускай школе.

Чацьвертая сэсія Рады БНР, якая адбылася ў Роззнгайме ў кастрычніку 1949 г. надала Віталю Кажану становішча галоўнага Скарбніка Рады БНР. Гэтую адказную функцыю нябожчык выконваў з надзвычайнай працавітасьцю й сыстэматычнасьцю аж да самага канца свайго жыцьця, нават калі ўжо быў цяжка хворы.

У чэрвені 1950 г. Віталь Кажан з жонкай і дачушкай Ларысай вадаплавам прыбылі ў гаманлівы Нью-Ёрк. Вясковаму сыну Віталю новае месца фабрычнай працы не прыпала да сэрца. У травені наступнага году Кажаны перабіраюцца ў горад Стамфард у штат Канэтыкэт, 35 міляў ад Нью-Ёрку. Тут Віталь атрымаў працу ў добрай кампаніі, дзе й адпрацаваў на становішчы прараба (формэн) амаль трыццаць гадоў.

У сакавіку 1952 г. Віталя напаткала трагедыя: жонка нарадзіла сына Аўгена, а пасьля родаў праз паўгадзіны сама памерла.

У кастрычніку 1953 г. Віталь ажаніўся зь Любай Пронькай, ранейшай добра знаёмай з Шаркаўшчыны. У іх нарадзіліся дзьве дачкі, Юля й Маргарыта.

Каб забясьпечыць чатыром дзецям вышэйшую асьвету, Віталь Кажан пачаў у 1954 г., у дадатак да фабрычнай працы, свой бізнэс – маляваньне дамоў навонкі і ўнутры. Гэта ён рабіў аж да 1984 году ў часе канікулаў ды сьвяточнымі днямі. Улетку звычайна наймаў некалькі работнікаў, часта студэнтаў. Усім дзецям Віталь з жонкай Любай забясьпечылі вышэйшую адукацыю. У сваім аўтабіяграфічным нарысе, апублікаваным у зборніку "Беларуская дыяспара як пасрэдніца ў дыялогу цывілізацый" (серыя "Беларусіка—Albaruthenica", Мінск, "Беларускі кнігазбор", 2001) Віталь піша: "Здаецца. што мы, я і мая спадарожніца Люба, можам ганарыцца сваімі дзяцьмі. Усе яны былі добрымі вучнямі ў школах і сёньня зьяўляюцца добрымі людзьмі. Таксама важнае, што яны жывуць у добрай дружбе-сяброўстве паміж сабой і нас бацькоў, ужо старых, паважаюць і шануюць. І яшчэ – усе яны добрыя хрысьціяне і добра ведаюць, што яны беларуская паходжаньня, і вельмі важна тое, што ўсе яны з намі, бацькамі, гавораць толькі пабеларуску".

Сьв. пам. Віталь Кажан быў чалавекам здольным, працавітым і адданым сваёй сям'і ды свайму народу. Жыцьцё такога чалавека не канчаецца зь ягонай фізычнай сьмерцяй. Сваім зыркім прыкладам ён застаецца жыць у сьведамасьці тых, хто яго ведаў, хто бачыў ягоную сумленнасьць і самаахвярную адданасьць высокаму ідэалу.

Абрад пахаваньня сьв. пам. Віталя Кажана выканаў сьвятар БАПЦ а. Вячаслаў у царкве Жыровіцкай Маці Божай у Гайленд-Парку. Н.-Дж. Ля пакрытай бел-чырвона-белым сьцягам труны разьвіталіся зь нябожчыкам выказваньнем спачуваньня сям'і й памінальным словам аб памерлым Старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла ды сябры Рады БНР Янка Запруднік і Антон Шукелайць.

Вечная памяць вернаму сыну Беларусі.

*Янка Запруднік.*

***Сябры ТБМ смуткуюць з нагоды смерці Віталя Кажана шчырага сябра нашага Таварыства, які акрамя ўсяго іншага на працягу многіх гадоў падтрымліваў ТБМ матэрыяльна.***

***Хай будзе пухам яму амерыканская зямля і вечная памяць пад беларускім небам.***

***Сакратарыят ТБМ.***

# Вяртанне забароненага імя...



29 студзеня ў Нацыянальным навукова-асветніцкім цэнтры імя Ф. Скарыны адбылася прэзентацыя кнігі прафесара Ўладзіміра Конана "Ксёндз Адам Станкевіч і каталіцкае адраджэнне ў Беларусі".

Навуковае выданне цалкам прысвечана выдатнаму дзеячу беларускага нацыянальнага Адраджэння першай паловы XX стагоддзя. Свецкімі адраджэнцамі былі пачынальнікі беларускай літаратуры і беларусістыкі: Ян Чачот, Ян Баршчэўскі, Рамуальд Падбярэзскі, В. Дунін-Марцінкевіч, іх натхняльнік Адам Міцкевіч, Кастусь Каліноўскі, Ф. Багушэвіч, Янка Купала і Якуб Колас. Ля вытокаў гэтага руху ў 20-х гг. XIX стагоддзя былі ксяндзы Войцах Магнушэўскі, вікары Піус Гарбацэвіч, арганіст пры Крашынскай плябані (цяпер Баранавіцкі раён) Георгі Арлоўскі, іхні вучань паэт Паўлюк Багрым.

На пачатку XX ст., як адзначае сп. Конан, цэнтрам свецкага беларускага Адраджэння была газета "Наша ніва" (1906-1915). Тады ж каталіцкі штотыднёвік "Bielarus" (1913-1915) пачаў сінтэз свецкіх і рэлігійных аспектаў гэтага руху. Сінтэз асветы і веры, навукі і рэлігіі яскрава выявіўся ў асветніцтве Адама Станкевіча (24.12.1891 (06.01.1892) – 29.11.1949), святара, гісторыка, тэолага, асветніка, літаратара, лінгвіста, публіцыста, грамадска-палітычнага дзеяча. Нарадзіўся ён у сялянскай сям'і в. Арляняты Крэўскай воласці Ашмянскага павета. Ён закончыў народную школу пры касцёле ў Гальшанах (1904), каталіцкую семінарыю (1910-1914), Петраградскую каталіцкую духоўную акадэмію (1914-1918) са ступенню кандыдата тэалогіі. Пасвечаны сп. Адам у ксяндзы ў 1915 г. У гады вучобы адзін з заснавальнікаў беларускіх гурткоў, дэвіз якіх быў "З Богам для народа!" На служэнне Беларусі сп. Адама Станкевіча, іншых ксяндзоў (А. Цікота, В. Гадлеўскі, Ф. Будзька і інш.) натхняў бацька беларускага руху прафесар Б. Эпімах-Шыпіла. Яны пачалі душапастырскую і асветніцкую працу для народа ў яго роднай мове...

У манаграфіі Ул. Конана даследуецца творчасць і грамадска-палітычная дзейнасць А. Станкевіча – беларускага адраджэнца шматграннага таленту, пакутніка за хрысціянскую веру і Беларусь, бо сп. Адам быў яшчэ і лідарам Беларускай хрысціянскай дэмакратыі (БХД), выдаўцом і рэдактарам газеты "Крыніца" ("Беларуская крыніца", 1917-1946), часопіса "Калосьсе". Ён – аўтар шматлікіх кніг, больш тысячы артыкулаў, нарысаў, палітычных дакументаў, у тым ліку манаграфіяў: "Беларускі хрысціянскі рух", "Да гісторыі беларускага палітычнага вызвалення", "Беларуская мова ў школах Беларусі XVI і XVII ст.", "Родная мова ў святынях", "Хрысціянства і беларускі народ", зборніка казанняў "Божае слова на нядзелю і свята".

Манаграфія выклікала вялікую дыскусію! Перад прысутнымі выступілі Ул. Завальнюк, Ніл Гілевіч, прафесары Арсень Ліс, Ул. Крукоўскі і іншыя нашы славутыя сучаснікі. Наклад кнігі невялікі, і яна хутка стане бібліяграфічнай рэдкасцю!

***Аляксей ШАЛАХОЎСКІ,*** *гісторык.*

# Бона Сфорца - 510 гадоў з дня народзінаў



Жанчына з італьянскага роду герцагаў Сфорца пакінула адметны след у гісторыі Беларусі. Бона Сфорца выдатна ведала літаратуру і мастацтва. Творы класічных аўтараў чытала на памяць. Яшчэ адно захапленне, якое патрабавала смеласці, спрыту, вынослівасці – паляванне. Праўда, гэта захапленне прынесла і вялікую трагедыю. У 1527 г. яна, будучы цяжарнай, палявала на мядзведзя. Вялізны звер кінуўся на каня. Яна вылецела з сядла. Неўзабаве нарадзіла хлопчыка, які пражыў усяго адзін дзень.

Як жа трапіла Бона Сфорца ў Вялікае Княства Літоўскае? У 1518 г. яна стала жонкай аўдавеўшага караля Рэчы Паспалітай і Вялікага князя Літоўскага Жыгімонта I Старога. Па яе ініцыятыве пачалі праводзіцца многія пераўтварэнні ў дзяржаўным, грамадскім, эканамічным жыцці Рэчы Паспалітай і Вялікага Княства Літаўскага. Бона ўсімі сродкамі ўмацоўвала каралеўскую ўладу, імкнулася абмежаваць уплыў магнатаў і шукала апору сярод дробнай і сярэдняй шляхты.

Пры ёй у 1529 г. быў выдадзены першы Літоўскі Статут, пачалося правядзенне валочнай памеры – важнейшай рэформы ў сельскай гаспадарцы, многія мястэчкі і гарады атрымалі права на самакіраванне. Бона засноўвала храмы, шпіталі, школы, прымала меры супраць п'янства. У яе знайшоў падтрымку Мікола Гусоўскі для выдання "Песні пра зубра". У Рэчы Паспалітай і Вялікім Княстве Літоўскім прайшло 38 гадоў яе жыцця. У Італію яна выехала за год да смерці. Магчыма, і не выехала б, калі б не нацягнутыя адносіны з сынам – каралём Жыгімонтам II Аўгустам.

*Людміла Трэпет.*



# Валянцін Таўлай. 90 гадоў з дня народзінаў



Таўлай Валянцін Паўлавіч (26.01.(8.02.), 1914-27.04.1947) нарадзіўся ў Баранавічах у сям'і чыгуначніка, у 1921-24 гг. вучань лідскай усеагульнай школы № 5, у другім класе напісаў першы верш "Верабей". Вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі (1927-29). У кастрычніку 1930 г. накіраваны ў БССР, працаваў у Рэчыцы інструктарам райкаму камсамолу, вучыўся ў БДУ, працаваў у газеце "Звязда". Член КПЗБ з 1932 г. Адкліканы на падпольную працу ў Заходнюю Беларусь – член цэнтральнай рэдакцыі КПЗБ, супрацоўнік нелегальнай "Беларускай газеты", прадстаўнік ЦК КПЗБ у Цэнтры нацыянальна-вызвольнага руху Заходняй Беларусі. Неаднаразова сядзеў у турмах, у 1934 годзе асуджаны на 8 гадоў. Вызвалены з Гарадзенскай турмы ў верасні 1939 г. У 1939-41 гг. працаваў карэспандэнтам лідскай газеты "Уперад", у 1943 г. арыштаваны ў Лідзе разам з бацькам, мачахай і сястрой, вызвалены з дапамогай сяброў, бацька і мачаха загінулі ў Асвенцыме. Быў сувязным партызанскага аддзелу імя Катоўскага (1942-44), выведнікам, кіраўніком наваградскай агентурнай сеткі спецгрупы "Буравеснік" (студзень-ліпень 1944). Пасля вайны працаваў адказным сакратаром у рэдакцыі наваградскай газеты "Звязда" (1944-45) і старэйшым навуковым супрацоўнікам і намеснікам дырэктара ў Літаратурным музеі Янкі Купалы (1945-47). Член Саюза пісьменнікаў СССР (1941).



*Домік Таўлая ў Лідзе. У гэтым доме каля самага замка жыла сям'я Таўлаяў пры Польшчы і ў час вайны. Больш 10 гадоў лідскія літаратары дабіваюцца стварэння тут Літаратурнага музея, але справа пакуль не рухаецца з месца. Наадварот, з доміка некуды знікла мемарыяльная дошка ў гонар паэта.*

Друкавацца пачаў у 1928 годзе. Аўтар паэмы "Непераможная" (1928). У 1935 г. у Лукішскай турме ў Вільна пачаў паэмы "Таварыш" і "Пра сухар", скончыў іх у 1945-46 гг. Некалькі вершаў напісана ў Лідзе. Першы зборнік "Выбранае" выдадзены ў 1947 годзе. Затым выдаваліся "Выбраныя творы" (1951, 1979), "Творы" (1966), "Выбраныя вершы і паэмы" (1967), "Пілую вершам краты" (1984).

Імем Таўлая названы вуліца ў Лідзе, бібліятэка ў Баранавічах.

*Яраслаў Грынкевіч.*

# Уганараванне Леаніда Лыча і Міколы Савіцкага ў Доме літаратара



4 лютага ў вялікай зале Дома літаратара прайшло ўганараванне ветэранаў беларускага нацыянальнага адраджэння Леаніда Лыча і Міколы Савіцкага з 75-годдзем і 70-годдзем адпаведна. У вечарыне бралі ўдзел сябры клуба "Спадчына", сябры ТБМ, калегі па працы, землякі юбіляраў.

**На здымку**: Леаніда Лыча віншуюць прадстаўнікі Уздзенскага райвыканкаму.

---

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"**

**ПРАЦЯГВАЕ ГІСТАРЫЧНЫЯ СЕМІНАРЫ ДЛЯ МОЛАДЗІ МЕНСКА!**

З цікавымі выступленнямі і паведамленнямі пра мінулае і сучаснае нашай сталіцы выступаюць вядомыя беларускія пісьменнікі і гісторыкі. Сярод іх **Кастусь Тарасаў, Вольга Іпатава, Віталь Скалабан, Анатоль Грыцкевіч, Сяржук Кручкоў.**

***Чарговыя сустрэчы адбудуцца з 4 па 12 лютага ў 18.00 у сядзібе ТБМ па адрасе: вул. Румянцава, 13***

**13 лютага, 18.00.** Гісторыя ўзнікнення і развіцця беларускіх партый і руху ў Менску на працягу XX стагоддзя. **Скалабан В. У.**

**14 лютага, 18.00.** Менск у творах беларускіх пісьменнікаў. **Іпатава В. М.**

**17 лютага, 18.00.** Гістарычная тапаграфія і тапаніміка Менска. **Грыцкевіч А.П.**

**18 лютага, 18.00.** Менск у часы сталінскіх рэпрэсій. **Тарасаў К. І.**

**18 лютага, 19.30.** Як стварыць суполку ТБМ? **Кручкоў С. М.**

**19 лютага, 18.00.** Гістарычная тапаграфія і тапаніміка Менска. **Шыбека З.**

**Запрашаюцца абітурыенты, студэнты і аспіранты з Менска і ваколіц.**

# ЗАПРАШАЕ

**Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы набыць абанементы на музычны лекторый "Нам засталася спадчына..."**

**Вядоўцы лекторыя:**

**Віктар СКАРАБАГАТАЎ**, Лаўрэат Дзяржаўных прэмій, заслужаны артыст РБ, саліст Опернага тэатра, прафесар Беларускай акадэміі музыкі, мастацкі кіраўнік калектыву "Беларуская капэла".

**Ганна КАРЖАНЕЎСКАЯ**, прафесар Беларускай акадэміі музыкі.

Плануецца правесці 5 заняткаў:

**17 лютага 2004 г.- 15.00.** "Эпоха Адраджэння ў музычнай культуры Беларусі" (фрагменты з Полацкага сшытка" 1640 г. Арыі з сшытка "Жальбы" 17-18 ст., зб. "Куранты" 1733г.)

**23 сакавіка 2004 г. – 15.00.** "Эпоха Рамантызму ў музычнай культуры Беларусі" (Ян-Давід Голанд, Міхал-Казімір Агінскі, Восіп Казлоўскі).

**13 красавіка 2004 г. – 15.00.** "Эпоха Рамантызму ў музычнай культуры Беларусі" (Міхал-Клеафас Агінскі, Генрых Радзівіл, Станіслаў Манюшка, Напалеон Орда і інш.).

**20 красавіка 2004 г. – 15.00.** "Нашаніўскі час і музычная культура Беларусі" (Ян Тарасевіч, Альбін Стаповіч, Сымон Рак-Міхайлоўскі).

**18 траўня 2004 г. – 15.00.** "Музычная культура Беларусі ў 30-40 гг. 20 стагоддзя" (Мікола Шчаглоў, Эльза Зубковіч, Анатоль Багатыроў, Уладзімір Алоўнікаў, Рыгор Самохін і інш.).

Білеты можна набыць у Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы.

Тэлефон для даведак 227-78-66.

Кошт абанемента дзесяць тысяч рублёў (на ўсе 5 музычных заняткаў).

# Кнігі па беларускай тэматыцы

Абмен.

Дапамога ў фармаванні прыватнай бібліятэкі.

220030 Мінск а\с 195.

тэл. 8-0297-53-91-96

Дашлю спіс прапаноў.

Беларуская мова- ТБМ наша будучыня

## *Ахвяраванні на ТБМ*

1. Кунцэвіч Уладзя – 3000 р.
2. Борскі Анатоль – 3000 р.
3. Мельнікаў Юры – 3000 р.
4. Сідараў Сяргей – 3000 р.
5. Рымша Алесь – 3000 р.
6. Хасанаў Ігар – 2000 р.
7. Мерцалава Н.Ф. – 3000р.
8. Фарнэль Кастусь – 1000р.
9. Рымша Сяргей – 1000 р.
10. Мудроў Вінцэсь – 2000 р.
11. Атрахімовіч Вячаслаў – 3000 р.

**Усе Наваполацк.**

12. Алесь Пархоменка – 5000 р., Мазыр.
13. Буракоў Зміцер – 1000 р., Менск.

Барацьба ўлады з ТБМ нагадвае барацьбу Мао з вераб'ямі, якіх падымалі трашчоткамі ў паветра і не давалі ім прызямліцца.

З павагамі і падтрымкай Вас. **Іван А.- 80000 руб., г. Менск.**

Таварыства беларускай мовы пры правядзенні мерапрыемстваў у абарону беларускай мовы нясе значныя матэрыяльныя выдаткі. Просім па меры магчымасці падтрымаць Таварыства.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г. Менск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белінвестбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).

## *Адказы на крыжаванку са ст. 12.*

**Па гарызанталях:** 3.Парадокс.10.Канары. 11.Шарада. 12.Сакратар. 13.Анкета. 16.Аблаўт. 17.Траверс. 19.Белгарад. 20.Апартэід. 23. "Тыгр". 24.Перакоп. 25.Ясенін. 29.Акселератар. 33.Эванс. 34.Румелія. 36.Аракс. 37.Галактыка. 38.Лынтупы. 44.Дысперсія. 48.Парантэз. 49.Ягдташ. 50.Праца. 51.Калоднік. 52.Адарка. 53.Бацян.

**Па вертыкалях:** 1.Баян. 2.Кале. 3.Пыса. 4."Рэкорд". 5.Дратва. 6.Квадра. 7.Барбароса. 8.Паражэнне. 9.Кантрданс. 13.Арбітр. 14.Калуга. 15.Трал. 17.Тапелец. 18.Спа. 21.Салетра. 22.Копанка. 26.Ікс. 27.Цар. 28.Авуар. 29.Анкас. 30.Румынія. 31.Лепта. 32.Ліепа. 35.Эта. 36.Акцыз. 39.Спаржа. 40.Грэцыя. 41.Апука. 42.Крыль. 43.Снуды. 44.Дэвіз. 45.Ягада. 46.Шторм. 47.Яшчар. **Кантрольнае слова:** САЛАМАНДРА.



*(Працяг. Пачатак у папяр. нумары.)*

Алесь Петрашкевіч

# Развітанне з Радзімай

## Драма ў дзвюх дзеях

***Остарман.*** Усе найшаноўнейшыя мужы дзяржаўныя ў першую чаргу падтрымалі адхіленне Аўстрыі ад удзелу ў дзеляжы, як ваша вялікасць кажа, польскага пірага. Яны ж лічаць геніяльным рашэнне вашай вялікасці, каб да Расіі далучыць цэнтральную частку Белай Русі з трохмільённым насельніцтвам па лініі Друя–Нарач–Стоўбцы–Пінск і, вядома ж, правабярэжную Украіну. Ну, а Прусія няхай ўжо возьме сабе Турэнь і Гданьск з акругамі.

***Кацярына II.*** Тады за вамі арганізацыя падпісання пагаднення паміж Расіяй і Прусіяй аб падзеле Рэчы Паспалітай, якое пасланнік Сіверс будзе праштурхоўваць праз гарадзенскі сойм. А каб кароль Станіслаў Аўгуст усё ж прыехаў на сойм, я "пазычу" яму 10 тысяч дукатаў. Але перш, чым гэта рабіць, трэба папярэдзіць прускага міністра, што справядлівасць патрабуе таго, каб выдаткі былі падзелены на роўныя часткі, так як мы дзейнічаем разам і па агульнай справе.

***Остарман.*** Божая справядлівасць, Ваша вялікасць. Божая справядлівасць...

***Кацярына II.*** У вас усё да мяне?..

***Остарман.*** Ваша вялікасць неяк выказала пажаданне паглядзець, што за філосафы сталі з'яўляцца ў Княстве Літоўскім, што хацелі б перарабіць гэты грэшны свет. Дык я яго прывёў...

***Кацярына II.*** Як ужо прывёў, дык пакажы. Філосафы — тавар рэдкі. А тут раптам сваё з'явіліся...

*Остарман выходзіць і вяртаецца з Яленскім. Апошні ў арыштанцкай вопратцы з кайданамі на руках і нагах.*

***Остэрман.*** *(каля дзвярэй).* Спыніся тут!

*Яленскі спыняецца, з цікавасцю аглядае царскую палату, засяроджваецца на царыцы. Остэрман падыходзіць да Кацярыны II, садзіцца ў крэсла перад яе сталом.*

Гэта і ёсць Іосіф Яленскі... Ваша вялікасць.

***Кацярына II*** *(уважліва разглядзеўшы арыштанта).* Вось ты які, філосаф-бунтар... Дзе радзіўся, дзе хрысціўся, чым займаўся да арышту, калі не сакрэт?...

***Яленскі.*** Што ж тут сакрэтнага? Нарадзіўся ў маёнку Свентарэвічы, гадаваўся на Мазыршчыне, вёска Малыя Прудкі. Скончыў Гарадзенскую зямельную школу Тызенгаўза. Працаваў пісарам, каморнікам, плыты ганяў.

***КацярынаII.*** Як апынуўся ў Пецярбургу?

***Яленскі.*** Прыязджаў сюды часта... па цікавыя кніжкі. Вясну, лета, восень плыты ганяю, а зімою кніжкі набытыя чытаю...

***Кацярына II.*** І сам пачаў пісаць кнігі... крамольныя, бунтарскія...

***Яленскі.*** Пачаў...

***Кацярына II.*** Ведаеш, што цябе пакараюць смерцю, як дзяржаўнага злачынцу?...

***Яленскі.*** Здагадваюся... У турме нагледзеўся...

***Кацярына II.*** Можаш не гадаць, бо пэўна будзеш павешаны. Дазволю табе хоць у сваё апраўданне, хоць мне на зло, паведаць свае бунтарскіе ідэі, мэты, намеры, каб я пабачыла, за што ты на смерць ідзеш...

***Яленскі.*** Што мне злаваць. Я вас першы раз у жыцці бачу.

***Кацярына II.*** Сапраўды. Тады гавары, парадуй царыцу...

***Яленскі.*** На бунт я нікога не падымаў, але ідэі і мары сапраўды меў і маю. Якое жыццё без мараў?...

***Кацярына II.*** Дык падзяліся. Узбагаці царыцу.

***Яленскі.*** Мае ідэі і мэты, як бачыце, *(трасе кайданамі)* царам не да спадобы. А то ці быў бы тут у жалезах.

***Кацярына II.*** Ведаў, што не спадобы, і пісаў...

***Яленскі.*** Хто ж гэта ведаў, што напісанае ў Мазыры не спадабаецца ў Пецярбургу, за трыдзевяць зямель у чужым царстве. І ў сваім "Перакладзе польскага права, усенароднаскладзенага" і ў "Адозве да народа — агульных сабрацця̆ў нашых" здавалася нічога такога крыўднага для каралёў і цароў не было. А на табе. А пісаў я за адмену прыгону, за роўнасць усіх саслоўяў...

***Кацярына II.*** Заклікаў народ яднацца і змагацца за вольнасць, выказваўся за дэмакратычную рэспубліку...

***Яленскі.*** Выказваўся, але хіба ж гэта грэх? Ну, пытаўся я ў мужыкоў: і чаго ж, шаноўныя браты, на працягу больш тысячы гадоў вашай няволі не выпрабавалі, чаго не перацярпелі... ні хто не можа былога вашага няшчасця апісаць. Не аднаго з вас, нявольнікаў, гарачы пан, разздаваўшыся на каня, да смерці забіў, за зняважлівае абыходжанне з панскім сабакам чалавека катаваннямі замучыў, за нездыманне шапкі перад панам, за разбіццё шклянкі некаторыя не толькі зубы , жыцці страцілі. А вашай жа працай дамы і палацы будаваны, гарады і цвердзі ўмацаваны, ваша сіла ворага з Айчыны выцесніла, перамогу атрымала, вашай працай усе сытапузы кормяцца.

***Кацярына II.*** Толькі за гэтыя словы цябе чвартаваць мала!

***Яленскі.*** Чвартуйце сабе. Мне цяпер ужо якая розніца? Самоты па самому сабе не маю бо запавет свой людзям пакінуў.

***Кацярына II.*** Які запавет?! Ад каго запавет?! Ты мужык! Сівалап! Быдла!

***Яленскі.*** Няхай сабе, калі царыцаасветніцы так здаецца... Але ж мужыкі на мяне не ў крыўдзе за тое, што я параіў ім ствараць аб'яднанні, дзе зямля і вынікі працы належалі б працаўнікам, а грошы і манетныя двары ды мануфактуры належалі б усяму люду простаму. А каб да гэтага ды яшчэ навуку для ўсіх абавязковую, то можна было б усталяваць лад дабрыні, усеагульнага шчасця і роўнасці паміж людзьмі. Розных жа кіроўцаў грамадой ды дзяржаваю, ды суды і раду старэйшых выбіраць агульнанародна з самых мудрых, а галоўнае сумленных, не лжывых. А каб хто не парушаў законаў, то яны павінны быць ясныя і ўсяку зразумелыя. А як людзі стануць сумленныя ды справядлівыя, смяротную кару адмяніць. Ніхто, акрамя Бога, не мае права ў чалавека — істоты боскай жыццё адняць.

***Остарман.*** Дзіва, але зараза французская ўжо і да Мазыра дакацілася.

***Кацярына II.*** Навошта лішняе гаворыць, баярын. Здаровы я. Мілаваў мяне Бог ад іх сарамотнай хваробы.

***Кацярына II.*** Баярын меў на ўвазе не хваробу, а ідэі французскай рэвалюцыі, якімі ты ў сваім Мазыры пакарыстаўся.

***Яленскі.*** А-а... Не, я да сваіх ідэй і мараў дадумаўся задоўга да іх рэвалюцыі.

***Остарман.*** Аднак, ён арыгінал,гэты мазыранін.

***Кацярына II.*** Католік? Праваслаўны?

***Яленскі.*** У гэтай справе ўсё проста і вельмі складана. Як бы вам больш даходліва патлумачыць? Пачну хоць з таго, што навідавоку: усякае духавенства падманвае, дурыць люд просты, падбухторвае адзін народ супраць другога, клапоцячыся толькі пра свае карыслівыя інтарэсы. Возьмем тыя ж каталіцызм і праваслаўе, палякаў і рускіх - за звычкі ідэялы спрачаюцца, а ісціну, існасць топчуць. Таму вера мая ў раннехрысціянскія, асвецніцка-дэмакратычныя ідэалы. А тут ужо найперш важнасць палітычнага ладу дзяржаў, ролі асветы, [illegible]віцця ўсялякага промыслу і паляпшэнне [illegible]абыту люду простага паспалітага, яго [illegible]на-маральнага ўдасканалення. А як да [illegible] Польшчы ды нашага Вялікага Княства, то проста дзіва — славяне, сваякі па крыві, а вынішчаем адзін аднаго, як звяры... Ці як пісаў ваш Радзішчаў: зверы алчные, піавцы ненасытные...

***Кацярына II.*** Ну, з мяне хопіць!... А то ён мне яшчэ Радзішчава пачне пераказваць...

***Остарман.*** Што, халоп, перад смерцю ў вялікай імператрыцы просіш?

***Яленскі.*** Перад жыццём, можа б яшчэ чаго і папрасіў, а перад смерцццю які сэнс.

***Остарман.*** Выйдзі за дзверы!

*Яленскі выходзіць. Кацярына II доўга маўчыць. Остарман чакае.*

***Кацярына II.*** Чакаеш майго прысуду, віца-канцлер?

***Остарман.*** Чакаю царыца-матухна. Бо не ведаю якую кару абрынуць на галаву вольнадумцы...

***Кацярына II.*** Калі прыме праваслаўную веру, затачы яго ў Салавецкі манастыр, а калі адмовіцца, рабі з ім тое да чаго дадумаешся. Гэты паляшук-каморнік страшней за двараніна-філосафа Радзішчава, што праехаў з Пецярбурга ў Маскву, бо сапраўдны апярэдзіў і зайшоў далей французскіх рэвалюцыянераў. Пры сустрэчы з такімі ахопліваe жах. Якраз такія падымаюць сякеру гільяціны... ствараюць смуту ў дзяржаве... выклікаюць пугачоўшчыну...

*Сцэна зацямняецца.*

### IX

*Лейпцыг. Невялікі пакой. У крэслах Калантай, Касцюшка і Патоцкі.*

***Калантай.*** Нарэшце мы разам, хоць і не ў Варшаве, а тут, у Лейпцыгу. Як кажуць генералы, ацэнім сітуацыю, правядзём рэкагнасцыроўку, прымем рашэнне ды аддамо загад. Яшчэ ў сваёй "Апошняй засцярозе Польшчы" я казаў: намеры іншаземных дзяржаў у адносінах да нас зразумелыя: яны жадаюць нас загубіць па частках. Няхай гэтыя мае словы будуць уступам да нашай гутаркі. А ты *(да Патоцкага)*, шаноўны Ігнацы, абмалюй становішча ў Айчыне, над якой кружаць і навісаюць тры ненажэрныя крумкачы. Ты ў нас сёння як ваенны міністр самы дасведчанны ў гэтым чарговым няшчасці, як для Каралеўства, так і для Княства.

***Патоцкі.*** Справы такія, паважаныя калегі: пасланнік Кацярыны II Сіверс сабраў у Горадні сойм. Але верхаводы таргавіцкай канфедэрацыі не жадаючы прымаць удзел у новым падзеле краіны амаль усе пакінулі Горадню. З'ехаў у свой маёнтак і канцлер Сапега, эміграваў віцаканцляр Храптовіч, некаторы час Ржавускі пратэставаў і рассылаў універсалы супраць уваходу ў Польшчу прускіх войскаў, потым таксама з'ехаў. Нарэшце віцамаршалкі Генеральнай канфедэрацыі Пулаўскі і Забэла аб'явілі, што канфедэрацыя не мае сродкаў, каб супрацьіўляцца рашэнню Расіі і Прусіі раздзяліць Рэч Паспалітую. Сойм працягваецца доўга і працягнуць, з аднаго боку, з вялікімі цяжкасцямі пад націскам расійскай зброі, а з другога – з балямі і святамі. Калі ў адносінах тэрыторыі, якая адышла да Расіі, сойм не выказваў асаблівых пярэчанняў, запрадаўшы землі Княства, то ў адносінах да тэрыторыяй, што захап[illegible] Прусія, сойм энергічна запратэставаў. А[illegible] калі дэпутаты, якія найбольш пратэставалі, былі арыштаваныя расійскімі жаўнерамі, сойм на прапанову згадзіцца на перадачу польскіх зямель і гарадоў Прусіі вырашаў адмаўчацца. У выніку трохразовых таких акцый і прагучала ганебна-славутая фраза: "Маўчанне — знак згоды". Другі падзел нашай Айчыны такім чынам быў зацверджаны. А сойм прыняў новую гарадзенскую канстытуцыю, якая аднавіла шляхецкія прывілеі, liberum veta, выбары караля. Начале дзяржавы пастаўлена фактычна здрадніцкая Пастаянная Рада. А ўсе ўнутранніх пытанні краіны, мінуючы караля і сойм, вырашае расійскім пасланік Булгакаў, а па ўсёй краіне, як у каралеўстве так і ў Княстве дыслацыраваны расійскія акупацыйныя войскі. Такая сітуацыя, панове.

***Калантай.*** Што ў цябе Андрэй Тадэуш? Але пачні з паездкі ў Парыж. Ці ёсць спадзевы на дапамогу Францыі?

***Касцюшка.*** У меня адны парадоксы, што ў Варшаве, што ў Парыжы...

***Калантай.*** Тады пачынай з парадоксаў.

***Касцюшка.*** У Варшаве кароль узнагародзіў мяне ордэнам "Віртуці Мілітары" і прысвоіў званне генерал-лейтэнанта, а я ў знак яго здрады Айчыне збег у Парыж, дзе заканадаўчы — доўгі сход Францыі надаў мне годнасць ганаровага грамадзяніна гэтай паважанай дзяржавы, якая фактычна адвергла мой мемарандум пра задачы вызваленчай рэвалюцыі ў Рэчы Паспалітай. І ў дапамозе нашай светай задуме адмовіла. А я так мала прасіў — адно толькі падтрымаць скасаванне каралеўскай улады і сойму, як і ўлады найвышэйшага святарства, ды асвяціць свабоду набыцця зямельнай уласнасці, усталяваць выбарчае права для ўсіх землеўладаўнікаў, што плацяць падаткі; ліквідаваць прыгонную залежнасць сялянаў, усталяваць свабоду і роўнасць для ўсіх.

***Патоцкі.*** Сапраўды, такая маласць пры генеральскай сціплаcці ганаровага грамадзяніна Францыі...

***Касцюшка.*** Бог ім суддзя, французам. Не хочаць яны мець шчаслівую і ўплывовую ў Еўропе рэспубліку двух народаў. Але я скажу шчыра, браты: толькі за шляхту ваяваць не буду. Жадаю свабоды для ўсяго народа і толькі для яго гатовы ахвяраваць жыццём! Па майму вайсковаму абавязку дакладваю: падрыхтоўка да паўстання ў Каралеўстве і Княстве, якое пачнецца адначасна ў Кракаве, Варшаве і Вільні, ідзе актыўна і плённа. Рыхтуюцца аддзелы, палкі і брыгады. Назапашваецца зброя. Мужыкі точаць косы, вострац сякеры. Абрыд уціск і здзек. Па[illegible]ыхтаваны і множацца дакументы, якіх па[illegible]ебуе рэвалюцыя, у тым ліку адозвы "Да арміі", "Да грамадзян", "Да духавенства", "Да жанчын". І яшчэ "Паланецкі ўніверсал", у якім сяляне аб'яўл[illegible] асабіста вольнымі. Накіпела на душ[illegible] ад подласці, ашуканства і падступнасці царыцы расійскай ды караля прускага, дык не ўстрымаўся я і накідаў папярэдне "Акт паўстання", хоць гэта, мо, болей *(да Калантая)* твой вучоны занятак, паважаны філосаф, чым генеральскі. Але ж хацелася, каб царыца, як той казаў, пасінела, а мо, і лопнула ад злосці, як прачытае. А ў адозве "Да войска" сказаў каротка, як і варта звяртацца генералу да жаўнера перад рашучай і вырашальнай бітвай: будзем жа адзінымі з грамадзянамі, згуртуемся шчыльней, злучым сэрцы і сродкі ўсіх жыхароў нашай зямлі. Калегі! — сказаў я войску і грамадзянам. — Ідзіце са мною! Чакае вас слав[illegible] і асалода задавалення быць вызво[illegible]нікамі Айчыны... Бяру разам з вамі лозунг "Смерць або Перамога!" Я перакананы, каб зрабіць першы крок да вызвалення, неабходна адважыцца быць свабодным, а каб атрымаць перамогу, трэба быць упэўненым ва ўласнай сіле! Застаецца галоўнае, браты, як перадаць сваю ўпэўненасць іншым...

***Патоцкі.*** На Польшчу і ў мяне ёсць спадзевы. А як з падрыхтоўкай паўстання ў Княстве?

***Калантай.*** Гэта сапраўды не толькі важна, а вырашальна. Там тылы расійскіх войскаў. Як іх разладзіць?! Як і нанесці першыя ўдары менавіта па тылах?!

*(Працяг у наступным нумары.)*

# Як беларускую мову не пускалі на Еўрабачанне – 2004

Зрэшты, не ўсё так кепска, як здаецца на першы погляд: з 15 адсартаваных надта кампетэнтным журы шэрых кардыналаў тутэйшай эстрады 31 студзеня народ усё ж здолеў дагледзець яркіх, каларытных, самабытных артыстаў – барысаўскі дуэт "Аляксандра і Канстанцін". Менавіта яны будуць прэзентаваць Беларусь на чарговым этапе фестывалю еўрапейскай песні, які сёлета будзе праходзіць у Стамбуле. Два паўнафарматныя альбомы гэтага калектыву ("За ліхімі за марозамі", 2001 і "Сойка", 2003), якія мае ў хатняй калекцыі кожны шчыры беларус, даюць упэўненасць, што рэальны голас нашага этнасу нарэшце бліcне зноў на мапе Еўропы.



*Аляксандра і Канстанцін*

Але тое, як праходзілі самі выбары – гэта ўжо класічны ўзор мясцовых палітэхналогіяў. Вось толькі гаспадары краіны, дзякуй Богу, чамусьці вырашылі разыграць новую карту.

Пачаліся выбары традыцыйна – з шырока разгорнутай хлусні. Публіцы заявілі, напрыклад, што паводле ўмоваў конкурсу абавязкова спяваць трэба не менш куплету на англійскай мове.

Хто сочыць за фестывалем, дакладна ведае, што гучыць там цяпер канадская зорка Наташа Сэн-П'ер, якая пяток гадоў таму прадстаўляла на Еўрабачанні Францыю, адмыслова падвучыла для гэтага французскую мову, бо ў сям'і пераважала ангельшчына.

А для чаго ж мясцовым шоў-бонзам спатрэбілася хлусня пра мову? О, пра гэта яшчэ класік пісаў, што мы жывем у краіне,

***Калі другі артыст народны***
***Не ведаў двух***
***народных схоў,***
***Затое меў***
***тут харч нязводны***
***І ўволю цешыўся з аслоў.***

Але ж час аслоў скончыўся і ўступныя песенькі тыпу трымайся, Еўропа, галадранцы ідуць без вопраткі душы ўжо не праходзяць, калі народ дарваўся да рэальнага голасу.

Ну але ж схлусілі пра моўны ўціск. Бо так лягчэй замяшаць у адну кашу і шэрых кардыналаў, і сапраўдных талентаў. Карацей, гарохавы боб з панцаком. Менавіта на гэтай падставе яшчэ на этапе "кампетэнтнага" адбору, такога ж хлуслівага, былі адсеяны вельмі самабытныя калектывы кшталту менскага гурта "Тэзаўрус", магіляўчанкі Ганны Мушак, ансамбля "Сваякі" з Гомельшчыны ды іншых. Адсеў рабіўся па адной прыкмеце: Беларусь не павінна была ў тых адмыслоўцаў гучаць па-беларуску.

Ну але ж быў сярод канкурсантаў адзін калектыў, выдатны ўзровень якога ніяк не перакрэсліш – "Юр'я". І іх уключылі ў спіс пераможцаў, а потым 18 студзеня аб'явілі, што яны не здолелі своечасова падпісаць кантракт. Вось такая, маўляў, выпадковасць была арганізавана арганізатарамі.

Цікава, што негледзячы на інцыдэнт з "Юр'ем" колькасць прэтэндэнтаў усё адно засталася той жа – 15. А тое, што заменены кантракт яшчэ пазней падпісвалі, гэта ўжо нікога не датычыць.

Хлусня панавала паўсюдна, але адмыслоўцам правінцыйнага шоў-бізнэсу нібыта яшчэ і падкрэсліць яе хацелася. І нямала хто ў той дзень ад душы пасмяяўся, калі вядоўцы Алесь Кругляк і Ларыса Грыбалёва (які пільны расавы адбор на БТ!) неаднойчы паўтаралі, што... "у нас тут стопрацэнтны жывы гук, а поп-зорка А. Саладуха потым не трапляў артыкуляцыяй у фанаграму, дый наогул цікава было слухаць інструменты, якіх не было на сцэне.

Ну добра ўжо няхай бы была гэтая звыклая тэлевізійная фанера – прызвычаіліся ўсе, што БТ канцэрты пісаць не ўмее, але ж навошта так адкрыта хлусіць пра мёд, калі рот крывіцца ад дзёгцю?

Самае дзіўнае, што менавіта ў такіх экстрэмальных умовах наш сціплы і рахманы народ усё ж здолеў дагледзець у расфарбаваных адным колерам стандартах рэальных носьбітаў свайго духу – дуэт "А end К", хоць іхняя песня "Мой Галілей" не самая каларытная.

Цікава, што не здолеў прыхаваць гэты беларускі адбор і патрабаванні Еўропы да крытэрыяў адметнасці: канкурсантаў нават замушалі выкарыстоўваць у дыска-стандартах штосьці хоць знешне каларытнае (цымбалы, жалейку, балалайку), але ў астатнім яны ўсе былі падобныя нават сваёй формай – жалобна чорнымі сукенкамі і кепскай ангельскай мовай (нешта кшталту "клоўз ёрайс ай ніз ю, чугеза").

БТ яўна апранула іх на святкаванне хаўтураў па беларускай мове, але нават украінская госця Руслана, якая спявала, натуральна, па украінску, здолела парадавацца, што народ беларускі ўсё ж не падмануўся і здольны паказаць, што яшчэ жывы.

***Вітаўт МАРТЫНЕНКА.***

# Крыжаванка "Адновім мову"

## *Прачытайце кантрольнае слова*

*Склаў Валянцін Налімаў*



**Па гарызанталях:** 3.З'ява, якая здаецца неверагоднай, нечаканай. 10.Спрошчаная назва астравоў у Атлантыцы, якую паспяхова асвойваюць дзеля адпачынку новыя рускія-беларусы. 11.Галаваломку, у якой загаданае слова дзеліцца на часткі, якія самі маюць пэўнае значэнне. 12.Асоба, якая вядзе пратакол сходу. 13.Апытальны ліст, які звычайна запаўняецца ўласнаручна. 16.Чаргаванне галосных у складзе адной марфемы: тое, што і апафанія ці дэфлексія. 17.Перашкода з тоўшчы зямлі для абароны ад куль, якія ляцяць уздоўж траншэі ці акопа. 19.Абласны цэнтр у еўрапейскай частцы Расіі. 20.Крайняя форма расавай дыскрымінацыі аэўнай групы насельніцтва аж да тэрытарыяльнай яе ізаляцыі. 23.Назва цяжкага германскага танка часоў другой сусветнай вайны. 24.Паселішча ў Крыме, якое дало назву перашыйку, што раздзяляе (ці злучае?) паўвостраў і мацярык. 25.Рускі паэт-лірык першай чвэрці мінулага стагоддзя. 29.Калі кажуць: "Я націснуў на газ", маюць на ўвазе педаль (...). 33.Сучасная назва еўрапейскай часткі Турцыі. 36. Правы прыток Куры. 37.Гіганцкая зорная сістэма са складанай структурай. 38.Чыгуначная станцыя на Віцебшчыне. 44. У матэматыцы: мера рассейвання, адхілення ад сярэдняга. 48.Фігурная дужка, якая аб'ядноўвае некалькі радкоў тэксту або некалькі слупкоў лікаў ці знакаў. 49.Паляўнічая сумка для здабытай дзічыны. 50.Твор-вынік разумовай дзейнасці. 51. Арыштант у масіўных кайданах для папярэджання яго ўцёкаў. 52.Жаночы галоўны персанаж оперы ўкраінскага кампазітара С. Гулак-Арцямоўскага "Запарожац за Дунаем". 53.Тое, што і бусел.

**Па вертыкалях:** 1.Удасканалены гармонік. 2.Горад-порт у Францыі на беразе праліва насупраць Англіі. 3.Пярэдняя частка галавы жывёліны. 4.Адна з самых першых марак савецкіх тэлепрыёмнікаў. 5.Тоўстая насмоленая ці навошчаная нітка для шыцця абутку, конскай вупражы. 6.Кожная з чатырох фаз Месяца. 7.Германскі кароль у XII ст., якога называлі "чырвонабародым". 8.Няўдача ў вайне, барацьбе, спаборніцтве. 9.Народны англійскі танец, які стаў бальным у XIX ст., а потым зліўся з кадрыляй. 13.Суддзя ў некаторых відах спартыўных спаборніцтваў. 14.Амурская прэснаводная рыба сямейства асятровых, даўжынёй да 5 метраў і вагой да 1 тоны. 15.Прыстасаванне для выяўлення і абясшкоджвання падводных мін. 17.Чалавек, які церпіць бедства ці загінуў на вадзе. 18.Горад у Бельгіі. 21.Азотнакіслая соль калію, натрыю, амонію. 22."Вайна каля Цітавай (...)" – штучны вадаём, сажалка з аповесці І.Я Навуменкі. 26.Традыцыйнае пазначэнне невядомай велічыні ў матэматыцы, фізіцы і г.д. 27.Тытул манарха ў старой Расіі, некаторых іншых краінах. 28.Уклад прыватнай асобы ў банк. 29.У Індыі жазло для кіравання сланом. 30.Дзяржава на поўдні еўропы. 31.Дроюная разменная грэчаская манета –сімвал пасільнай ахвяры, укладу ў агульную справу. 32.Славуты латвійскі артыст балета, народны артыст СССР. 35.Літара грэчаскага алфавіта. 36.Ускосны падатак на тавары масавага спажывання – спіртныя напоі, тытунёвыя вырабы і да т.п. 30. Травяністая расліна, тоўстыя белыя падземныя парасткі якой ужываюцца ў ежу. 40.Прыміжземнаморская краіна. 41.Рухомая беларуская народная гульня накшталт рускай лапты. 42.Прамысловая назва некаторых марскіх рачкоў, з якіх вырабляецца, напрыклад, вядомая ежа-паста "Акіян" 43.Возера ў групе Браслаўскіх азёр. 44.Кароткае выслоўе, якое выражае кіруючую ідэю паводзінаў або дзеянняў. 45.Невялікі сакавіты плод некаторых кустовых ці травяністых раслін.д 46.Аўтар аповесцяў "Таямнічы Радзішчаў", "Аповесць пра Балотнікава" і некаторых іншых з гістарычнай тэматыкай. 47.Старая назва некаторых вымерлых паўзуноў і земнаводных.

*(Адказы можна праверыць на ст. 9.)*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:***
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:***
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by
**http://tbm.org.by/ns/**

***Рэдакцыйная калегія:***
Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Вольга Іпатава, Васіль Ліцьвінка, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 9. 02. 2004 г. Замова № 203.
Аб'ём 3 друкаваныя аркушы. Наклад 3500 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 1250 руб., 3 мес.- 3750руб.
***Кошт у розніцу:*** 295 руб. (у Менску - 310 руб.)